ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№2 (131) люты 2022 год

CATHOLICNEWS.BY



## Сястра Таццяна Гмыза пра служэнне ў Вільні

Стар. 8



## Планы по реставрации санктуария в Будславе расписаны на 11 лет

Стар. 10



## Пазнаёміліся ў Касцёле

Стар. 13

## Гістарычныя артыкулы Раісы Зянюк і Кастуся Шыталя

Стар. 4-5








## Запрашаем у "Прастору малітвы"!



Прастора малітвы

Штодзённая малітва online

На сайце "Прастора малітвы" штодзённа публікуецца евангельскі ўрывак, кароткае разважанне да яго і вобраз, натхнёны Словам Божым.

*Адскануйце сваім смартфонам QR-код, каб далучыцца да "Прасторы малітвы".*



## Наш падпісны індэкс – 63783

**Кошт падпіскі**
**на месяц – 1,5 руб.**
**на 3 мес – 4,5 руб.**
**на 4 мес – 6 руб.**



Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты"

# Служэнне міласэрнасці: агляд дзейнасці “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі

**Шаноўныя чытачы! Набліжаецца Вялікі пост – асаблівы час пакаяння і ўчынкаў міласэрнасці, час, калі мы вучымся салідарнасці з тымі, хто ў патрэбе, і спачуванню чужой бядзе. III нядзеля Вялікага посту, якая сёлета выпадае на 20 сакавіка, ужо традыцыйна з’яўляецца днём, прысвечаным Дабрачыннаму каталіцкаму таварыству “Карытас”, калі ў парафіях Віцебшчыны збіраюцца сродкі на падтрымку дзейнасці нашай арганізацыі. Дзякуючы Вашым ахвяраванням і дапамозе замежных партнёраў “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі на працягу апошняга года рэалізавала сваю місію ў наступных накірунках і праектах.**



Перадусім мы нясём **дапамогу абяздоленым** і тым, каму яна асабліва патрэбная, у выглядзе прадуктаў харчавання, адзення, абутку, дроваў для ацяплення прыватных дамоў. За апошнія месяцы было раздадзена больш за 1000 прадуктовых набораў людзям з інваліднасцю, шматдзетным сем’ям і іншым уразлівым катэгорыям грамадзян.



У якасці падмогі для **хатніх сельскіх гаспадарак** жыхары дзесяці раёнаў Віцебскай вобласці ў 2021 годзе атрымалі ад “Карытас” хатнюю жывёлу, птушку, корм і саджанцы на суму 45 тыс. еўра. Сацыяльная дапамога для ўразлівых катэгорый грамадзян зладжаная пры падтрымцы нашых партнёраў – “Карытас” Лінц і Рэнавабіс.



“Карытас” аказвае дапамогу людзям, пазбаўленым уласнага дома і падтрымкі блізкіх, якія наведваюць Цэнтры часовага (начнога) знаходжання **бяздомных асобаў** у Віцебску і Оршы. Мы набываем прадукты харчавання, адзенне і гігіенічныя сродкі, а таксама мэблю для абсталявання Цэнтра, каб забяспечыць ім больш годнае жыццё.



Як і многія людзі добрай волі, супрацоўнікі і валанцёры “Карытас” не засталіся ў баку ад **патрэбаў мігрантаў** з Блізкага Усходу, што апынуліся на нашай зямлі ў цяжкім жыццёвым становішчы. Дзякуючы дапамозе замежных партнёраў і мясцовым ахвяраванням мігрантам была дастаўлена харчовая дапамога.



Запатрабаваным і актуальным праектам “Карытас” сёлета аказалася дапамога 350 сем’ям з уразлівых груп насельніцтва, якія выхоўваюць **дзетак першага году жыцця**. Бацькі атрымалі наборы тавараў або мелі магчымасць набыць самае неабходнае для добрага жыццёвага старту сваіх дзяцей, карыстаючыся сертыфікатам.



“Карытас” працягвае супрацоўнічаць з **дзяржаўнымі сацыяльнымі ўстановамі** Віцебскай вобласці. Ва ўмовах пандэміі пяць дамоў-інтэрнатаў атрымалі своечасовую гуманітарную дапамогу ў выглядзе супрацьэпідэмічных сродкаў. Дзякуючы фінансавай падтрымцы замежных партнёраў “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі набыў для Варонаўскага дома-інтэрната тры сучасныя цяпліцы, а таксама сельскагаспадарчы інвентар і ўгнаенні. Патрэбныя ў гаспадарцы рэчы – маразільную камеру, парнік з полікарбанату, тэлевізар, а таксама індывідуальныя наборы адзення – атрымалі і жыхары Аддзялення круглагадовага сутачнага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту і інвалідаў у аграгарадку Краснаполле Расонскага раёна.



Пры офісе “Карытас” у Віцебску дзейнічае **клуб для людзей з інваліднасцю.** Для больш як трыццаці маладых людзей і іх бацькоў Цэнтр з’яўляецца месцам сустрэчы, творчасці, сацыялізацыі, узаемадапамогі. Многія з іх удзельнічаюць у занятках **студыі інклюзіўнага танца “Імпэт”,** якая аб’ядноўвае аматараў танца незалежна ад іх фізічных магчымасцяў. Сустрэчы для людзей з інваліднасцю рэгулярна адбываюцца таксама пры парафіяльных супольнасцях “Карытас” у Глыбокім і Мёрах.



У **Рэсурсным Цэнтры для сацыяльнай інтэграцыі ў Віцебску** арганізавана дзённае знаходжанне для пажылых людзей, многія з якіх церпяць на дэменцыю ці маюць інваліднасць. Для наведвальнікаў і іх сваякоў сацыяльныя работнікі арганізоўваюць заняткі, кансультацыі псіхолага, мерапрыемствы (ЛФК, танцавальная тэрапія, заняткі творчасцю, кулінарныя майстар-класы), а таксама садзейнічаюць у адаптацыі жылых памяшканняў людзей з цяжкімі захворваннямі.



**Конкурс на веданне Святога Пісання** для дзяцей да 14 гадоў уключна ўвесну адбудзецца ў Віцебскай дыяцэзіі ўжо чацвёрты раз. Арганізацыя конкурсу, падрыхтоўка заданняў і ўзнагародаў з’яўляецца пастаральнай ініцыятывай нашага “Карытас”. З клопатам пра духоўнае і інтэлектуальнае развіццё дзяцей “Карытас” таксама набыў і перадаў каталіцкім парафіям Віцебшчыны **падручнікі і канцылярскія прылады** для катэхетычных заняткаў на суму 4200 еўра.



Аднымі з асноўных бенефіцыяраў праектаў “Карытас” з’яўляюцца **парафіі Віцебскай дыяцэзіі.** За апошні год парафіяльным супольнасцям былі раздадзеныя супрацьэпідэмічныя сродкі на суму 31 тыс. руб., сродкі гігіены і чысціні (2200 еўра), калядныя падарункі для 3586 дзяцей. Пад апекай “Карытас” таксама знаходзіцца восем інтэграцыйных святліц і араторыяў, што дзейнічаюць пры парафіях Віцебскай дыяцэзіі. У прыватнасці, у 2021 годзе былі абсталяваныя сталярныя майстэрні ў парафіях св. Антонія ў Віцебску і св. Андрэя ў Лынтупах, а таксама закуплена мэбля і кухонная тэхніка для парафіяльнай святліцы Езуса Міласэрнага ў Паставах.



У межах міжнароднага дабрачыннага **праекта YES!** (Youth Empowerment and Strengthening) – “Скарачэнне беднасці праз працаўладкаванне сацыяльна неабароненай моладзі ў менш развітых рэгіёнах Беларусі” – адбываюцца кансультацыі і трэнінгі для маладых людзей з вясковых раёнаў Віцебскай вобласці, мэтай якіх з’яўляецца скіраванне намаганняў моладзі на працаўладкаванне, рэалізацыю ўласных бізнес-ідэй, а таксама павышэнне ўзроўню якасці жыцця ў сельскай мясцовасці.



“Карытас” ажыццяўляе дапамогу **ўразлівым групам дзяцей**, у тым ліку са шматдзетных, няпоўных, апякунскіх, малазабяспечаных сем’яў, дзецям з інваліднасцю. На працягу апошняга года былі закупленыя 83 наборы тэрапеўтычных матэрыялаў для дзяцей з інваліднасцю, праведзена пяць дабрачынных мерапрыемстваў у карэкцыйных цэнтрах Віцебскай вобласці (Лепель, Гарадок, Сянно, Лёзна, Наваполацк). З нагоды новага навучальнага года дзеці атрымалі 150 заплечнікаў і 100 пар абутку.



Дзейнасць “Карытас” накіраваная ў тым ліку **на працу з сем’ямі**, на стварэнне бяспечнага асяроддзя для выхавання і духоўнага, маральнага развіцця дзяцей. У межах праекту “Дружная сям’я без гвалту” для бацькоў і дзяцей адбываюцца трэнінгі, арганізоўваюцца інтэграцыйныя мерапрыемствы. Таксама на базе Рэсурснага цэнтра “Карытас” дзейнічае сэнсарны пакой і ёсць магчымасць скарыстацца парадамі **каталіцкага псіхолага**.



Ужо шмат гадоў вялікай папулярнасцю на Віцебшчыне карыстаецца сумесны праект “Карытас” Віцебск і “Карытас” Прага **“Дапамога дзецям”**. Дзеці з уразлівых груп (у 2021 годзе іх было каля 400 асобаў) два разы на год атрымліваюць ад дабрачынцаў фінансавую дапамогу для набыцця адзення, абутку, школьных прыладаў ці аплаты навучання. Дадаткова для іх арганізоўваюцца экскурсіі і святочныя мерапрыемствы.



Больш эфектыўнай і своечасовай дабрачынную дзейнасць робяць парафіяльныя супольнасці “Карытас” і валанцёры, якія ахвяруюць свой час, здольнасці і адкрытае сэрца бліжнім. Аддаючы ў Божыя рукі чарговы, 23-ці год служэння “Карытас” у Віцебскай дыяцэзіі, хочам выказаць **удзячнасць усім святарам і вернікам, ахвярадаўцам і валанцёрам**, хто салідарна падтрымлівае нашу працу фінансава, непасрэдным удзелам ці малітвай. Запрашаем сачыць за нашымі навінамі і далучацца да супольнай справы міласэрнасці!

З павагай, каманда “Карытас” Віцебск.

***с. Дар’я Галубкова OV,** тэкст*
*фота з архіва “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі*

# Забілі святара, калі ён спавядаў

**Хроніка пераследу хрысціян ў Азіі дапоўнілася новымі трагічнымі выпадкамі: падчас нядаўніх выхадных на гэтым кантыненце былі забітыя два пастары.**

29 студзеня ў В'етнаме загінуў 40-гадовы каталіцкі святар, дамініканін, айцец Жузэ Тран Нгок Тхань. Трагедыя здарылася ў дыяцэзіі Дак-Мот, што за сорак кіламетраў на паўночны захад ад Кантума. Злачынца, узброены нажом, накінуўся на законніка, які спавядаў перад вечэрняй святой Імшой у касцёле, прычыніўшы яму смяротныя раненні. Пазней ён быў затрыманы паліцыяй. Пахаванне айца Тран Нгок Тханя прайшло 31 студзеня ў горадзе Б'енхоа.



Яшчэ адзін трагічны выпадак адбыўся ў Пакістане. У суботу, 30 студзеня, у горадзе Хаятабад, недалёка ад Пешавара, невядомыя ўзброеныя людзі на матацыкле расстралялі аўтамабіль, у якім знаходзіліся тры пратэстанцкія пастары. У выніку нападу загінуў 75-гадовы Вільям Сірай, яшчэ адзін пастар, Наэм Патрык, атрымаў раненне ў руку і знаходзіцца ў лякарні.

В'етнам і Пакістан уваходзяць у сумны рэйтынг 50-ці самых небяспечных для хрысціян краін у свеце, які быў нядаўна прадстаўлены міжнароднай ініцыятывай Open Doors. Першую пазіцыю ў ім сёлета заняў Афганістан, пасунуўшы на другое месца Паўночную Карэю.

*Аляксандр Панчанка,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Першы пакістанскі мучанік. Пачаўся дыяцэзіяльны этап беатыфікацыі

**Гэтую радасную вестку перадаў католікам у Лахоры арцыбіскуп Себасцьян Шоу падчас св. Імшы ў свята св. Яна Боска, апекуна моладзі. "Гэта вялікі дзень для касцёла ў Пакістане, які з'яўляецца меншасцю ў мусульманскай краіне", – сказаў кс. Фрэнсіс Гульзар, генеральны вікарый дыяцэзіі Лахор.**

20-гадовы мужчына аддаў сваё жыццё, каб тэрарыст-смяротнік не ўвайшоў у запоўнены вернікамі храм, дзе Акаш Бахір працаваў валанцёрам. "Я памру, але я не пушчу цябе", – крыкнуў ён тэрарысту, які ў рэшце рэшт падарваў бомбу звонку. У касцёле працягвалася набажэнства, у якім прымалі ўдзел больш за тысячу чалавек. Калі б тэрарыстам удалося пранікнуць унутр, адбылася б вялікая бойня.

Тэракты, у якіх загінуў Бахір, адбыліся ў Лахоры ў 2015 годзе падчас Вялікага посту, калі вернікі сабраліся на пакаяльную службу. Іх здзейснілі два тэрарысты-смяротнікі.

Адзін з іх падарваў сябе каля касцёла Хрыста (які належыць Нацыянальнаму касцёлу Пакістана), а другі паспрабаваў пракрасціся ў каталіцкі храм святога Яна. У выніку нападаў загінулі 17 чалавек і 70 атрымалі раненні.

*Паводле idziemy.pl*
*Пераклад*
***Лаліты Арлоўскай***

# Во Всемирный день священнической жизни в Конго убит молодой священник

**Католики в Демократической Республике Конго отдают последнюю дань любви и уважения молодому священнику, убитому во Всемирный день священнической жизни – его подстерегли и застрелили джихадисты по пути из одного прихода в другой, сообщает catholicnewsagency. Появились более подробные данные об этом печальном событии.**

Отец Ричард Масиви Касерека (Richard Masivi Kasereka), 36 лет, попал в засаду вооруженных боевиков на северо-востоке территории Люберо 2 февраля, когда ехал в свой приход Святого Михаила Архангела после службы в Каньябайонге, – по свидетельству епископа Мелхиседека Сикули Палуку (Melchisédec Sikuli Paluku) из Бутембо-Бени. Епископ в интервью ACI Africa, местного партнера агентства CNA, сообщил, что власти ведут расследование убийства.

В епархии Бутембо-Бени нередки случаи нападений боевиков Союзных демократических сил (Allied Democratic Forces, ADF). Известно, что эту связанную в джихадистами ИГИЛ группировку, совершающую рейды из соседней Уганды, возглавляет мусульманин, отрекшийся от христианской веры. Епископ Палуку уже осуждал террористические акты, совершенные в регионе в прошлом году. "Они разрушают школы и больницы, – заявил епископ в мае 2021 года. – Они убивают беспомощных пациентов прямо на больничных койках. Ни дня не проходит, чтобы кого-нибудь не убили. Они убивают родителей на глазах детей. В нашей епархии уже повсюду сироты и вдовы. Они сжигают наши деревни дотла. Они ввергли наш район в состояние крайнего бедствия и нищеты". Епископ провозгласил общецерковную новенну (девятидневное моление) 3-11 февраля "об упокоении души отца Ричарда Масиви по воле Божией".

Покойный священник принял свои вечные обеты в ордене регулярных малых клириков (Order of Clerics Regular Minor) в марте 2018 года и был рукоположен в сан священника в феврале 2019 года. Он окончил кенийский университетский колледж Тангаза, который находится на попечении 22 католических орденов. С октября 2021 года он служил священником храма Святого Михаила Архангела. "Я помню его как преданного и глубоко духовного миссионера, – говорит отец Лаурианус Баньюзукваб Туисабе (Laurianus Banyuzukwabo Tuyisabe) в интервью ACI Africa. – Он согревал любовью нашу религиозную семью. Те, кто знал его, особенно ценили в нем подлинную доброту и дух радости, привлекавший к нему очень многих".




Отец Теодоро Калау (Teodoro Kalaw), генеральный настоятель ордена регулярных малых клириков, также осуждает убийство и восхваляет душевную щедрость Масиви. "Мы осуждаем этот смертоносный акт и молимся о торжестве правосудия в самое ближайшее время, – говорит отец Калау. – Мы скорбим, что злоумышленники насильственным и подлым образом отняли жизнь у того, кто посвятил ее служению Господу, исполняя обеты в нашей религиозной семье".

Заупокойная служба по Масиви прошла 5 февраля в храме Святого Франциска Ассизского в Кахунтуре. "Он жил под сенью креста, и пролитая им кровь, по словам отца Церкви Тертуллиана, есть кровь мучеников и семя Церкви, – сказал отец Калау. – Смерть отца Ричарда не есть конец его странствия, а скорее, начало новой жизни. Чувство потери, которое мы все переживаем, есть свидетельство и признание добра, которое ему удалось свершить, и великой любви, которую он являл каждому среди нас".

*Sedmitza.ru*

# Памяць ахвяраў Халакосту ўшанавалі ў Гродне

**27 студзеня адзначаўся Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакосту. У Гродне ўспомніць памятную дату разам з прадстаўнікамі габрэйскай абшчыны прыйшлі неабыякавыя гараджане і прадстаўнікі духавенства.**

Сустрэча адбылася пры ўваходзе ў былое гета.

Ад імя Каталіцкага Касцёла прысутнічаў віцэ-канцлер Гродзенскай курыі кс. канонік Антоній Грэмза.

Пасля супольнай малітвы ўдзельнікі прайшлі ў сінагогу, дзе запалілі шэсць сімвалічных свечак памяці.

27 студзеня 1945 года Чырвоная армія вызваліла адзін з самых страшных канцлагераў Другой сусветнай вайны – Аўшвіц-Біркенау, дзе загінула больш як мільён чалавек, пераважна габрэяў. Падчас вайны з 29 тысяч гродзенскіх габрэяў жывымі засталося каля двухсот, а большая частка загінула ў канцлагеры Аўшвіц-Біркенау. Пасля вайны ў Гродна вярнулася толькі некалькі дзясяткаў габрэяў.

У лагеры смерці траплялі з Гродна не толькі габрэі, але таксама беларусы і палякі.

*Прэс-служба*
*Гродзенскай дыяцэзіі*



# Беларусь на фотаздымках з архіва езуітаў у Кракаве

**У новым нумары "Каталіцкага Весніка" прапануем вам пазнаёміцца з чарговым блокам візуальных крыніц. У мінулым выпуску мы публікавалі фотаздымкі Пінска і Піншчыны з фотальбома, які належаў кс. Вернэру, каторы вучыўся і працаваў у Пінску. Сёння пашырым геаграфію і прадставім чытачам фотакарткі з розных куточкаў Беларусі.**

■ Раіса Зянюк


Пінск. Працэсія ў гонар Божага сэрца. 10.6.1934.


Давыд-Гарадок. Выпускнікі на плябаніі з а. Дубаем, 1934 г.


Сакрамант шлюбу ў касцёле ў Красным. (50-я гг.(?) XX ст.).


Полацк. Базар (без даты).


Група святароў, якія былі на адпусце св. Андрэя Баболі ў Полацку 23 мая 1908 г. Адбыўся ўрачысты адпуст упершыню пасля шматгадовага перапынку. Адзін з прысутных – а. Урбан SJ, які прамовіў казанне


Шчучын. Кола міністрантаў кс. Бэрбэка.

Фотаздымкі, якія мы прапануем вашай увазе, знаходзяцца ў архіве езуітаў у Кракаве. Храналогія фотаздымкаў, якія датычаць Беларусі, – XX ст. Лакалізацыя здымкаў у архіве езуітаў абумоўлена тым, што ў міжваенны перыяд (1921-1939 гг.) езуіты пасля 100-гадовага перапынку вярнуліся на беларускія землі і распачалі працу ў некаторых касцёлах, якія раней належалі ордэну. У пасляваенны перыяд на тэрыторыі Беларусі працаваў толькі адзін езуіт – кс. Юзаф Марсангер, фотаздымкі якога таксама прысутнічаюць у калекцыі.

Агулам фотакарткі, на якіх адлюстраваныя беларускія землі, можна падзяліць на некалькі груп у залежнасці ад аб'ектаў, каторыя яны адлюстроўваюць: партрэты, душпастырства, пейзажы (архітэктура).

**Партрэты** – перадусім гэта калектыўныя фотаздымкі (напрыклад, насельнікаў таго ці іншага дома, вучняў езуіцкіх школ альбо школ сясцёр-місіянерак). Тут асаблівую цікавасць уяўляе здымак, дзе Пінскі калегіум езуітаў наведвае **біскуп Баляслаў Слосканс.** Біскуп Баляслаў Слосканс (19.08.1893 – 18.04.1981) у 1925 г. працаваў у віцебскім касцёле св. Барбары. У 1926 г. быў прызначаны Апостальскім адміністратарам Мінскай і Магілёўскай дыяцэзій. У 1927 г. яго арыштавалі. Тры гады адбываў пакаранне на Салаўках. Пасля вызвалення вярнуўся ў Магілёў, дзе ў лістападзе 1930 г. быў арыштаваны зноў. Яго змаглі вызваліць у 1933 г. у межах абмену палітычнымі закладнікамі паміж СССР і Латвіяй.

Наступныя дзесяць гадоў біскуп жыў і працаваў у Латвіі, а ў 1944 г. эміграваў у Бельгію. У 1952 г. быў прызначаны таксама і Апостальскім візітатарам для беларусаў, якія пражывалі ў замежжы (у Заходняй Еўропе). Ёсць звесткі, што біскуп добра валодаў беларускай мовай. Здымак, на якім адлюстраваны біскуп Слосканс і пінскія езуіты, датуецца 1934 годам, то бок зроблены літаральна праз год пасля вызвалення біскупа з лагераў.

Вельмі цікавым з'яўляецца і **фотаздымак святароў на ўрачыстасці св. Андрэя Баболі ў Полацку.** Адбылася яна, як і сведчыць надпіс на здымку, першы раз пасля доўгага перапынку 23 мая 1908 г. Культ св. Андрэя Баболі быў вельмі пашыраны ў Беларусі, аднак у Расійскай імперыі не надта прыхільна ставіліся да традыцыі шанавання святога, які быў вядомы перадусім сваёй місійнай дзейнасцю, у тым ліку сярод праваслаўных, за што яго называлі Апосталам Палесся. Загінуў мучаніцкай смерцю: забіты казакамі падчас паўстання Багдана Хмяльніцкага ў 1657 г. у Янаве (на Палессі). Аднавіць традыцыю шанавання святога дазволіў т.зв. "указ аб верацярпімасці" 1905 г.

З 1908 г. фэсты ў дзень памяці св. Андрэя Баболі аднавіліся, аднак працягваліся нядоўга. У сувязі са зменай улады ўжо ў 1922 г. мошчы былі забраныя з полацкага касцёла савецкімі ўладамі па заяве "группы красноармейцев караульного батальона". У 1923 г. два езуіты, прадстаўнікі папскай камісіі, змаглі вывезці рэліквіі з Савецкага Саюза ў Рым, а пасля – у Варшаву, дзе яны і знаходзяцца да сённяшняга дня. На згаданай урачыстасці 23 мая 1908 г. казанне прамаўляў езуіт кс. Ян Урбан (1874-1940) –гісторык касцёла, вядомы ўніяцкі і экуменічны дзеяч.

**Індывідыяльныя фотаздымкі.** Да іх належаць, напрыклад, здымкі адзінага езуіта, які працаваў у БССР (у в. Краснае, в. Солы) пасля вайны – а. Юзафа Марсангера.

Несумненную цікавасць уяўляе і фотаздымак, на якім адлюстраваны езуіт **а. Фелікс Вярцінскі,** каторага часам называюць сузаснавальнікам Кангрэгацыі місіянерак святой Сям'і. Айцец Фелікс Вярцінскі (1858-1940) – езуіт, вельмі таленавіты, ведаў 12 моў, добра ведаў гісторыю і традыцыю езуітаў у Беларусі. У 1903-1011 гг. працаваў у розных частках Расійскай імперыі, у склад якой уваходзілі тады і беларускія землі. Менавіта ён у 1905 г. прыехаў у Магілёў да супольнасці сясцёр-місіянерак, якая толькі фарміравалася, і правёў рэкалекцыі для Б. Лямэнт, Л. Гурчынскай і Л. Чэхоўскай. Менавіта кс. Вярцінскаму апавядалі пра свае планы Б. Лямэнт і будучыя сёстры. Вынікам рэкалекцый стала ідэя кс. Вярцінскага пра стварэнне тайнай кангрэгацыі. Ён як апостальскі місіянер меў права такую кангрэгацыю заснаваць.

Пасля рэкалекцый айцец яшчэ на некаторы час затрымаўся ў Магілёве, і разам з Баляславай Лямэнт распрацаваў праект канстытуцыі, абапіраючыся на канстытуцыі ордэна езуітаў. Разам была абраная і назва для новай супольнасці – "Таварыства св. Сям'і" (у 1923 г. зменена на "Місіянеркі св. Сям'і"). Калі постаць Баляславы Лямэнт добра вядомая, то кс. Вярцінскі часта застаецца ў цені. Фотаздымкі гэтага святара – добрая нагода ўзгадаць і яго дзейнасць у справе заснавання адной з кангрэгацый.

**Душпастырства.** Гэтая група фотаздымкаў цесна звязаная з папярэдняй, з патрэтамі (у т.л. калектыўнымі). Тут у асноўным адлюстраваная дзейнасць руху Эўхарыстычнай Круцыяты. Рух Эўхарыстычнай Крупыяты быў заснаваны ў 1914 г. езуітам а. Бесье, а зацверджаны Папам Рымскім Бэнэдыктам XV у 1921 г. У 1932 г. Папа Рымскі Пій XI надаў яму статус галоўнай арганізацыі Апостальства Малітвы. Пасля гэтага рух пачаў хутка распаўсюджвацца як калькасна, так і тэрытарыяльна. У Польшчы (і на заходнебеларускіх землях, якія ў 1921-1939гг. уваходзілі ў яе склад) арганізацыя распаўсюдзілася дзякуючы намаганням Уршулі Ледухоўскай і сясцёр-уршулянак, якія пры сваіх кляштарах пачалі арганізоўваць гэтая таварыствы. У 1927 г. дырэктарам руху ў Польшчы быў прызначаны езуіт а. Юзаф Бок. Гэтым тлумачыцца наяўнасць вялікай колькасці фотаздымкаў удзельнікаў руху Эўхарыстычнай Круцыяты у архіве езуітаў. У тым ліку гэта і суполкі на беларускіх землях – Ільля, Альберцін, Шчучын, Друя і іншыя мясцовасці.

**Езуіты ўсходняга абраду. Альберцін.** Вельмі важны блок фотаздымкаў, які адлюстроўвае адну з найбольш цікавых з'яў у міжваеннай канфесійнай гісторыі Беларусі, – адраджэнне ідэй уніі і ролі ў гэтым працэсе ордэна езуітаў. На здымках гэтай групы прадстаўляленыя як агульны від калегіума ў Альберціне, так і яго жыхары.


Касцёл і кляштар кармелітаў босых у Мядзеле


Айцец Фелікс Вярцінскі, якога часам называюць сузаснавальнікам Кангрэгацыі місіянерак св. Сям'і


Альберцін. Калегіум езуітаў усходняга абраду. 1937 г.


Па атрыбуцыі архіва — езуіт у візантыйскай літургічнай вопратцы. Па меркаванні а. А. Крата — гэта біскуп, на што паказвае панагія на шыі, і жэзл у руках. Знешне падобны да рэдэмптарыста а. Мікалая Чарнецкага

**Архітэктура.** Такіх фотаздымкаў дастаткова шмат. Гэтым разам было вырашана не акцэнтаваць увагу на дадзенай групе, а апублікаваць тыя, якія паказваюць страчаныя помнікі і традыцыі. Публікуюцца таксама фотаздымкі адроджаных традыцый, як, напрыклад, працэсіі ў мядзельскай Кальварыі.

*Адсканууйце сваім смартфонам QR-код, каб паглядзець больш фотаздымкаў на сайце.*



# Па старонках старых газет. Асвячэнне касцёла ў Падсвіллі

**На старонках старых перыядычных выданняў можна знайсці шмат карэспандэнцый з нашага рэгіёна. Апісанні падзей, якія дзесяцігоддзі таму былі навінамі, цяпер з'яўляюцца каштоўнымі гістарычнымі крыніцамі. Сёння мы зазірнём у "Dziennik Wileński", №. 33 за 11 лютага 1932 года і згадаем асвячэнне касцёла ў Падсвіллі, якое адбылося роўна дзевяноста гадоў таму на Грамніцы.**

**■ Кастусь Шыталь**

Але перш крыху ўзгадаем, адкуль узялося Падсвілле. Яшчэ 120 гадоў таму на картах нельга было знайсці населены пункт з такой назвай. У 1902-1906 гадах расійскі ўрад будаваў стратэгічную чыгуначную лінію, якая мела злучыць станцыю Балагое паміж Пецярбургам і Масквой з горадам Седльцы ў Польшчы. Адна са станцый гэтай чыгункі была збудаваная за некалькі кіламетраў ад вёскі Свіла. Шляхам дадання прыстаўкі ўтварылася назва новай станцыі – Падсвілле.

Першыя два дзесяцігоддзі Падсвілле было пасёлкам з некалькіх дамоў пры чыгуначнай станцыі. Змены ў жыццё гэтай ваколіцы прыйшлі з польска-савецкай вайной і ўсталяваннем у сакавіку 1921 года паводле Рыжскага міру мяжы паміж Польшчай і СССР. У 1924 годзе для аховы мяжы і ўтрымання бяспекі на памежжы польскія ўлады стварылі Корпус Аховы Памежжа (КАП). Адразу на беразе возера Алоізберг, за два кіламетры ад станцыі Падсвілле, пачалося ўзвядзенне будынкаў гарнізона КАП.

У 1925 годзе будаўніцтва вайсковых аб'ектаў скончылі. У Падсвіллі размясцілася камандванне 7 батальёна КАП, які ахоўваў польска-савецкую мяжу ў раёне Галубіцкай пушчы. Вакол будынкаў гарнізона пачаў разрастацца новы населены пункт. Праз некалькі гадоў як вайсковае камандванне, так і мясцовыя жыхары заняліся справай заснавання ў Падсвіллі каталіцкай святыні. Яе будаўніцтва прыпала на эканамічна цяжкі час – у першай палове 30-х гадоў XX стагоддзя Заходнюю Беларусь моцна закрануў сусветны эканамічны крызіс.

У лютым 1932 года касцёл асвяцілі. Гэтай радаснай навіной падзяліўся з чытачамі двух перыядычных выданняў – штодзённіка "Dziennik Wileński" і пазнанскага тыднёвіка "Przewodnik katolicki" – невядомы мясцовы жыхар, які падпісаўся крыптонімам W.

"Падсвілле – дзе ж яно, тое Падсвілле? Так з пэўнасцю падумае кожны чытач і шукаць будзе ў закутках свайго розуму, ці не чуў пра такую вёсачку. Толькі паляўнічым можа прыпомніцца Падсвілле – малая станцыйка, прыязны начальнік станцыі, некалькі беларусаў, у якіх і вачэй з-пад шапкі не ўбачыш, кажух і лапці, ну і некалькі габрэяў як дадатак да краявіду. Паляўнічыя ведаюць, што тут рай для іх, проста абяцаная зямля – ваўкі, глушцы, цецерукі, курапаткі.

Сёння Падсвілле – гэта малы гарнізон, прыгожыя будынкі КАПа змянілі краявід у лепшы бок. Капаўцы не закрыліся ў службовых рамках, але выйшлі з іх на карысць мясцовага грамадства. Не далі спакою дзейным капаўцам раскіданыя па лясах і балотах магілкі іх братоў-жаўнераў, якія палеглі ў змаганні з чырвоным суседам. Папрасілі пані Мацкевічаву, уладальніцу маёнтка Алоізберг, якая з радасцю дала зямлю, каб годна спачылі тыя, хто паклаў жыццё на гэтай зямлі. Стварылі могілкі, на якіх годна спачываюць вялікія сыны Айчыны, пачынаючы ад героя 1863 года святой памяці паручніка Фалькоўскага .

Пасля могілак падумалі нашы капаўцы пра касцёл. Што? У гэтых цяжкіх часах занападу, стагнацыі, зніжэння цэнаў на сельскагаспадарчую прадукцыю, без гроша... А так, менавіта так, бо, як казаў старшыня камітэта, маючы грошы, не штука пабудаваць нават і катэдру, але трэба ўмець пабудаваць касцёл на ўскраінах дзяржавы, сярод беднага насельніцтва – і без грошай.

Быў заснаваны камітэт будаўніцтва касцёла, у які ўвайшлі афіцэры і падафіцэры 7 батальёна КАП, прадстаўнікі абшарнікаў, вайсковых асаднікаў, а таксама нават тых бедных без зямлі. Два гады змагаўся камітэт, а грамадскасць дапамагала яму паводле магчымасці. Пісалі, жабравалі часам вельмі моцна... І зноў зямлю дала пані Мацкевічава. Будаўнічы матэрыял і грашовыя ахвяры – камандзір КАП, Ян Аскерка, Казакевіч, Суліма Самуйла, Буйніцкія, Шчэпаньскі і шмат, шмат іншых, якіх немагчыма пералічыць паймення.

Такім чынам, у дзень 2 лютага 1932 года наш касцёл асвяціў шаноўны ксёндз доктар Ян Элерт з Вільні, які пасвячэнне здзейніў па даручэнні Яго Эксцэленцыі Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага. Першае казанне прамовіў ксёндз-магістр Новак, пробашч вайсковай парафіі Новая Вілейка.

Не магу паўтарыць тут тых залатых слоў, якія былі сказаныя з нашай сціплай казальніцы – слоў, якія, можа, тут яшчэ не былі чутыя. Іх ацанілі ўдзячныя слухачы, ацаніў малітоўны народ, які, узрушаны да глыбіні, не хаваў сваіх слёзаў. А поўна было тут людзей, касцёл не мог іх змясціць. Былі ўсе прадстаўнікі адміністрацыйнай улады, войска на чале са сваім камандзірам палка палкоўнікам Богушам-Шышка, усе навакольныя абшарнікі і народ.

Пашана ўсім дабрадзеям і ахвярадаўцам, якія дапамаглі ў будаўніцтве гэтай крэпасці веры і лацінскай культуры тут, на ўскраінах, асабліва шаноўнаму нашаму духавенству. Пашана жанчынам, жонкам афіцэраў і падафіцэрам, і ўсім жанчынам з секцыі касцельных шатаў, якія на ўзор даўніх часоў забяспечылі касцёл патрэбнымі касцельнымі рэчамі. Пашана афіцэрскаму корпусу 7 батальёна "Падсвілле" за выяўленую гасціннасць", – так заканчвае карэспандэнт свой допіс.

Хутка пасля таго, як скончылі касцёл, падсвільскія памежнікі дапамаглі грашыма і працай з будаўніцтвам школы, якая была адчыненая ў 1935 годзе. А летам 1939 года многіх з іх перакінулі на заходнія межы Польшчы, дзе яны 1 верасня таго ж года прынялі бой з гітлераўскай Нямеччынай. 17 верасня 1939 года польска-савецкую мяжу перайшла Чырвоная армія. Памежнікі з Падсвілля адступілі на тэрыторыю Латвіі. Некаторыя з памежнікаў, як, напрыклад, Стэфан Палчыньскі, камандзір стражніцы "Камены Воз", загінулі ў баі, прыкрываючы адступленне сваіх таварышаў.

Па-рознаму скляліся лёсы асобаў, што прысутнічалі на той падсвільскай урачыстасці ў 1932 годзе. Палкоўнік Стэфан Богуш-Шышка ў верасні 1939 года бараніў ад нацыстаў Варшаву, пазней служыў у арміі Андэрса, вызваляючы Заходнюю Еўропу. Ксёндз Эдмунд Новак, які прамаўляў казанне, у верасні 1939 года быў вайсковым капеланам, трапіў у палон да саветаў, расстраляны ў 1940 годзе ў Цвяры. Ксёндз Ян Элерт, які асвячаў касцёл, сядзеў у турмах і пры нацыстах, і пры камуністах, памёр у 1962 годзе ў Вільні. У 50-я гады ён ўратаваў, схаваўшы ад камуністаў, абраз Езуса Міласэрнага, які быў намаляваны паводле візіі святой Фаўстыны Кавальскай.

Падсвілле ў 1944-1960 гадах было цэнтрам Плісказа раёна. Гэтаму паспрыяла наяўнасць чыгункі і будынкі, што засталіся з даваенных часоў, у якіх можна было размясціць адміністрацыйныя ўстановы. Камуністычныя ўлады зачынілі касцёл, зрабілі ў ім склад, а ў 80-я гады XX стагоддзя разабралі. Цяпер ад старога касцёла застаўся толькі падмурак, а на ім – камень з памятным надпісам. Новы касцёл быў збудаваны на іншым месцы і асвечаны ў ліпені 2011 года. Вайсковыя могілкі захаваліся і былі грунтоўна аднаўленыя за сродкі польскага ўрада ў 2019 годзе.



Ксёндз Ян Элерт, які асвяціў касцёл у Падсвіллі




Ксёндз Эдмунд Новак



Паштоўка з выявай касцёла ў Падсвіллі. У авале – партрэт віленскага арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага



Жаўнеры Корпуса Аховы Памежжа на фоне будынка гарнізона ў Падсвіллі, 20-я гады XX стагоддзя



Будынак касцёла,ператворанага ў склад, незадоўга да разбурэння. 80-я гады XX стагоддзя

# Шопоголизм: современная норма или расстройство?

**Современный мир, нацеленный на принципы потребления и обладания, наполненный разнообразным выбором товаров и изощренными маркетинговыми стратегиями, выступает определенной угрозой для людей со слабой психикой, легко внушаемым и подверженным воздействию со стороны. Я сейчас говорю о таком явлении, как шопоголизм.**

■ **Марина Ткач,** *психолог*

Думаю, каждый из нас наслышан о нем, существует большое количество анекдотов и фильмов комедийного жанра про шопоголиков. Но так ли безобиден шопоголизм, что может за ним скрываться и что с этим делать? Именно на эти вопросы я постараюсь ответить сегодня.

Стоит отметить, что понятие "шопоголизм" – это ненаучное, а бытовое определение. В научном сообществе непреодолимое влечение скупать что-либо без наличия необходимости в приобретаемых вещах называется "ониомания". Явление шопоголизма (ониомании) было замечено и описано еще в конце 19 века одними из классиков психиатрии Эмилем Крепелином и Эйгеном Блейлером, которые исследовали явление ониомании и идентифицировали ее характерные признаки.

На данный момент нет единого мнения в вопросе, является ли шопоголизм болезнью или психическим расстройством. С уверенностью можно сказать лишь то, что шопоголизм как неоднородное по своему происхождению явление может быть как отдыхом и развлечением, так и перерасти в более серьезные психические расстройства.

Среди психологов есть мнение, что шопоголизм – один из подсознательных вариантов компенсаторного поведения, когда человек через покупку пытается возместить что-то, чего ему не хватает. Поэтому шопоголизм можно отнести к социально приемлемым видам зависимости.

Причины шопоголизма (ониомании):

Чаще всего шопоголизм формируется у женщин по причине дефицита внимания, внутренней опустошенности, чувства одиночества, желания признания, а также при депрессивных расстройствах. Кроме того, существуют иные факторы, способные спровоцировать развитие шопоголизма:

• низкая степень саморегуляции (ведет к снижению способности уравновешивать значимость покупки ради достижения цели "просто купить");

• иллюзия власти, контроля и свободы (в современном мире предметы потребления перестали выполнять свою первоначальную роль – накормить, обогреть, защитить. Большую значимость приобретают такие свойства, как престижность, бренд как маркировка успешности или принадлежности к определенной социальной группе. Иллюзия контроля достигается тем, что совершение покупок минимизирует тревожность, убирает депрессивные настрои, повышает уверенность и уважение к самому себе);

• жажда адреналина (различные магазины также могут выступать источником адреналина, когда человек принимает решение о приобретении определенного товара);

• потребность в любви ("недолюбленные" дети, страдающие от нехватки родительского внимания и получающие подарки вместо заботы, во взрослой жизни компенсируют нехватку внимания тягой к покупкам);

• психологические травмы родом из детства (различные психологические проблемы, травмы, сложности в коммуникативном взаимодействии могут подталкивать к приобретению нового предмета как попытки наградить самого себя, утешить, проявить заботу).

Безусловно, это далеко не исчерпывающий список причин, которыми, с точки зрения психологии, можно объяснить шопоголизм. В каждом конкретном случае факторы и причины будут различные.

**Как проявляется шопоголизм?**

Шопоголизм (ониомания) характеризуется определенным набором признаков, которые проявляются в поведении человека, страдающего этим "недугом":

• регулярные бесцельные посещения магазинов, в том числе и интернет-магазинов, просмотр рекламных буклетов, подписка на большое количество рекламных рассылок;

• чрезмерно внимательное знакомство со всем ассортиментом торговой площадки;

• возникающее непреодолимое желание купить что-нибудь без разумной на то причины;

• грусть и неудовлетворенность при невозможности регулярного посещения торговых центров и магазинов, своеобразный "душевный синдром абстиненции";

• сожаление о покупке вскоре после нее;

• проблемы и конфликты в семье, обусловленные тягой к приобретению.

**Как избавиться от шопоголизма?**

Как и любая зависимость, шопоголизм требует терпения и пошагового избавления.

Для начала стоит признаться самому себе, что ваше стремление что-либо покупать перестало быть нормой и, скорее, мешает вам жить. А чтобы максимально уберечь себя от шопоголизма, всегда стоит поступать так:

• составляйте список покупок. В составлении списка поможет ревизия гардероба. В этом случае вы будете видеть действительную необходимость покупки той или иной вещи;

• реже посещайте магазины. Если есть возможность, то попросите совершать необходимые для жизни покупки своих родных или друзей;

• не поддавайтесь искушению купить. Прежде чем совершить покупку, изучите ассортимент онлайн: цены, дизайн, различные модели, бренды и только потом принимайте решение об покупке;



• откажитесь от безналичного расчета за покупку. Сейчас мы не представляем свою жизнь без кредитной карты, но в случае шопоголизма лучше будет иметь наличные деньги, с которыми нам чуть сложнее расставаться, чем с цифрами на банковском счете;

• ведите учет расходов. Пусть войдет в привычку фиксировать свои расходы в приложениях в телефоне, компьютере или по старинке в блокноте. Это позволит более реалистично оценивать свои финансовые возможности;

• не гонитесь за скидками и различными акциями. Они всегда провоцируют нас на ненужные покупки. В такой ситуации мы покупаем вещи и продукты по принципу "Пускай будет, это же по акции / по красной цене";

• встретив "нужную" вещь, сосчитайте до 100. Выпейте кофе, глубоко подышите, да что угодно можно делать, главное – не поддаться спонтанному желанию купить именно сегодня, сейчас. А завтра эта вещь, может, и не будет для вас такой привлекательной и нужной.

Если вы страдаете шопоголизмом, не стоит себя корить. Это лишь усложнит ситуацию. Постарайтесь придерживаться вышеописанных правил. А если самостоятельно вы не справляетесь, то стоит обратиться к психологу или психиатру.

# Женщина родила в коме и проснулась после того, как ей явился св. Иоанн Павел II

**Ребекка Мария родилась на 32 неделе 16 марта 2013 года в Катании (Сицилия). Звучит как обычная новость – одни из многих преждевременных родов, которые закончились положительно благодаря прогрессу науки и упорному труду врачей и медсестер. Однако история этого рождения, подробно описанная в журнале Miracoli, куда необычнее, ведь мама малышки в тот момент находилась в коме, и потребовалось настоящее чудо, чтобы она смогла вернуться к своей семье.**

У 33-летней Иваны Греко уже была одна дочь – Джудитта, когда она вынашивала вторую. И вдруг её поразило кровоизлияние в мозг. На момент поступления в отделение реанимации больницы Гарибальди она уже находилась в коме.

Перед врачами встали сразу две срочные задачи: спасти женщину и помочь Ребекке Марии родиться как можно скорее. Заведующий отделением был вынужден принимать эти роды в экстремальных условиях. Через два дня после того, как Греко доставили в больницу, ей сделали кесарево сечение. В результате родилась здоровая девочка весом 3 фунта 6 унций, которую сразу же перевели в отделение неонатологии.

Но Ивана все еще находилась в опасной для жизни клинической ситуации. Вот как она рассказывает о своем невероятном опыте журналу Miracoli: "Кома началась как дурной сон. Я не могла сказать, может быть, я была в больничной палате, но куда бы я ни повернулась, повсюду бесцельно бродили мертвые люди. Затем издалека я увидела Папу Войтылу. Он сидел на моей кровати и звал меня. Я подошла к нему и умоляла не дать мне умереть. Он улыбнулся и успокоил меня".

Именно с этой улыбкой он когда-то призвал мир не бояться: "Не бойтесь. Распахните двери Христу!" Ивана тоже ничего не боялась, укрепленная любовью Папы.

"Сон" продолжился разговором между ними двумя, в котором Святой Отец спросил ее, узнала ли она его. Когда она сказала ему, что да, он уточнил, что он больше не Папа, а всего лишь Кароль Войтыла.

Ивана приводит также одну забавную деталь: она не могла вспомнить имя нынешнего Папы (недавно избранного в то время). Она сказала Войтыле, что нового Папу зовут Александр, но он поправил ее и назвал правильное имя – Франциск.





Ивана продолжает свой рассказ: "Он сидел на моей кровати и сказал: "Подойди, сядь рядом со мной". Затем он обнял меня и позволил положить голову ему на плечо. С этого момента мы начали молиться. Мы молились днями. Мы просили заступничества Богоматери, и я чувствовала его руку на своем лбу. В какой-то момент он сказал мне: "Я сейчас уйду, но ты должна сохранять спокойствие!" Я не могла дышать, но вдруг почувствовала дыхание любви, которое наполнило мои легкие, и тогда я поняла, что это было дыхание любви Иисуса!"

В этот момент, 29 марта, Ивана вышла из комы и с ужасом осознала, что ее матка пуста. "Это было худшее переживание в моей жизни!" – сказала она корреспонденту Miracoli.

Сразу после этого главный врач, находившийся рядом с ней, успокоил ее и показал фотографии Ребекки, сделанные ее мужем Паоло в инкубаторе. После того, как она увидела эти снимки, сердце Иваны наполнилось благодарностью, и она почувствовала, что пережила что-то сверхъестественное. "Я поняла, что получила божественное дыхание Иисуса. Это Он заставил меня проснуться. Потом врачи продолжили дело Божие".

Божье дело не закончилось рождением Ребекки в целости и сохранности, а продолжилось полным отсутствием мозговых повреждений у Иваны. Она сегодня с радостью заботится о своих двух девочках, которых поручает заступничеству Кароля Войтылы.

Мать также благодарна за работу врачам. В видеоинтервью, сделанном при выходе из больницы, она говорит: "Это чудо было сотворено Богом и людьми вместе".

*Рускатолик.рф*

# Апытанне да Дня закаханых: “Пазнаёміліся ў Касцёле”

**З нагоды Дня святога Валянціна “Каталіцкі Веснік” звярнуўся да пар, якія пазнаёміліся ў Касцёле**

**Мазынскія Аляксандр і Марыя (адказвае Аляксандр):**



– Наша знаёмства адбылося ажно дванаццаць гадоў таму (14 мая 2009). Чаму ажно? Таму што шмат чаго адбылося за гэты час. Сям'я – гэта няпростая справа, і тут без Бога нічога не атрымаецца. Памятаю, калі я быў яшчэ "зялёны", а дакладней, заканчваў другі курс універсітэта, то пробашч Ветрынскай парафіі кс. Валянцін прапанаваў паехаць у пілігрымку ў Кракаў. Для мяне гэта быў вельмі складаны час навучання, але не ведаю чаму я згадзіўся. Там я і пазнаёміўся са сваёй тады яшчэ будучай жонкай Марыйкай. І магу запэўніць, што каханне з першага позірку не бывае, хіба што для мяне.

Памятаю, што, калі выходзілі з аўтобуса, яна адразу ўзяла мяне “ў абарот”, спіхнула нейкія рэчы і яшчэ скардзілася, што я сам не вызваўся дапамагчы. Я падумаў, чаго яна да мяне прычапілася? Але і ўявіць сабе не мог, што праз пару дзён буду вельмі сумаваць па ёй, бо давялося раз'ехацца пасля пілігрымкі.

Рамантыкам я ніколі не быў, таму Бог вырашыў мне ў гэтым дапамагчы. У хуткім часе Марыйка мне патэлефанавала, і пачаўся ў нас перыяд рамантыкі і закаханасці. Праз год пасля знаёмства мы ўзялі шлюб у касцёле Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Наваполацку. Яшчэ праз год у нас нарадзілася дачушка Кацярынка. Гэты час быў вельмі няпросты, але калі час быў просты? Я яшчэ заканчваў вучобу ва ўніверсітэце, ды і характары ў нас абоіх вельмі складаныя. Зараз у нас чацвёра дзяцей: Кацярынка, Янік, Вераніка і Дамініка. Нам здаецца, што мы – самая шчаслівая сям'я! І за гэта ўсё дзякуем Пану Богу!

**Сідлярэвіч Дзмітрый і Таццяна:**



*Дзмітрый:* У нас ёсць дзве гісторыі знаёмства. Я памятаю адну, Таня памятае другую. Першы раз мы пазнаёміліся на “Літаратурнай вечарыне” у Гродзенскай семінарыі. Нас пазнаёміла сяброўка. Гэта было ў 2015 годзе. Тады я падумаў, што яна класная дзяўчына.

*Таццяна:* Я памятаю гісторыю знаёмства дзесьці на паўгода пазнейшую. Гэта было на дзень нараджэння майго сябра, які праходзіў у нашай гродзенскай парафіі на Дзевятоўцы. Дзіма таксама там прысутнічаў. Аднак візуальна я ведала яго яшчэ раней, бо ён іграў на гітары ў касцёле. Пасля таго, як мы пазнаёміліся, мы не адразу пачалі сустракацца. Былі пэўныя перапынкі. Некалькі гадоў мы падтрымлівалі адносіны анлайн, а потым Дзіма запрасіў мяне на свой дзень нараджэння. Пасля зноў быў перапынак. У 2017 годзе мы пачалі сустракацца. У 2019-ым адбыўся шлюб. Дзяцей у нас пакуль няма.

*Дзмітрый:* Для мяне сям'я – месца асабістага росту, месца сілы. Сям'я – гэта адказнасць. Таксама гэта шмат добрых момантаў, пеpажытых разам. Сям’я – гэта крута! Дарэчы, мы праводзім у касцёле курс для сем’яў. Тут пары разам узрастаюць духоўна, абмяркоўваюць розныя важныя рэчы.

*Таццяна:* Для мяне сям’я – гэта ахвярнасць адно аднаму. Гэта пэўная аддача, калі я гатова аддаваць іншаму больш, чым браць сабе. Сям’я не падразумявае жыць для сябе, а толькі для кагосьці. Гэта ўтульнасць, падтрымка, сіла. Файна, калі ты разам з мужам можаш служыць у Касцёле. Я пра гэта марыла.

**Сям'я Мезіных, Віталь і Ганна (адказвае Віталь):**



– Сям'я наша дастаткова маладая, нам толькі адзін год і пяць месяцаў. Калі ўспамінаем пра нашую гісторыю знаёмства, то да гэтага часу здзіўляемся, як гэта так усё магло здарыцца. Можна прысвяціць гэтаму цэлую кнігу! Хоць мы з Ганначкай перад нашым знаёмствам і жылі амаль што ў адным горадзе – яна ў Бараўлянах, а я ў Мінску – і нават быў перыяд, мы спецыяльна падлічылі, калі хадзілі ў адзін касцёл, але нашае першае знаёмства адбылося па-за роднай Беларуссю. А менавіта ў добра вядомым усім мястэчку Меджугор'е ў Босніі і Герцагавіне. А ў 2018 годзе з 31 ліпеня па 7 жніўня адбываўся 29 Міжнародны хрысціянскі моладзевы фестываль "Младзіфэст". І дзіўна тое, што мы нават не былі ўдзельнікамі адной пілігрымкі. Ганначка туды прыехала аўтобусам з пілігрымамі ад Чырвонага Касцёла, і зусім выпадкова (не прыгоды заслугоўваюць асобнага апавядання), а я разам са сваімі сябрамі з малітоўнай супольнасці “Бога Айца” акурат ехаў туды з Аўстрыі, дзе мы ўдзельнічалі ў рэкалекцыях. Пад канец фестывалю я выпадкова даведаўся, што Ганначка грае на скрыпцы, а наш ксёндз пробашч Андрэй Сіповіч з парафіі Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыі, дзе мы гралі на святой Імшы а 18 гадзіне, акурат, як памятаю, маліўся за тое, каб у нас з'явілася скрыпка ў групе праслаўлення. І я, не доўга думаючы, падлятаю да Ганначкі з прапановай далучыцца да нас на Кальварыі, каб іграць на святых Імшах і адарацыях. Так і сталася.

Але праз месяц я даведаўся, што мяне прынялі ва ўніверсітэт у Польшчы, і з кастрычніка пачынаецца новая старонка ў маім жыцці. Мы з Ганначкай пісалі і тэлефанавалі адно аднаму амаль што кожны дзень. Цяжка сказаць, калі нашае сяброўства перарасло ў нешта большае. Але тут было і выпрабаванне, бо амаль год мы не бачыліся, акрамя некалькіх нечаканых спатканняў. Нашы адносіны былі ў асноўным толькі ў анлайн-прасторы. Шмат хто кажа, што адносін на адлегласці не існуе. Мы выключэнне.

Праз год мы даведаліся, што Ганначка паступіла ва ўніверсітэт у Польшчу. А яшчэ праз год, на два гады нашага знаёмства, я зрабіў прапанову рукі і сэрца ў санктуарыі Маці Божай Тракельскай. Менш чым праз месяц, 29 жніўня 2020 года, пры велізарнай дапамозе нашых сяброў і бацькоў адбыўся наш шлюб. А пазней, трошкі больш чым праз год, амаль на мой дзень нараджэння, Бог падарыў нам дачушачку. Сям'я для нас цяпер – гэта пакліканне, на якое мы адказалі і ў якім павінны сябе рэалізаваць як муж і жонка, которыя кахаюць, як бацькі, которыя клапоцяцца і любяць, як хрысціяне, которыя сведчаць.

**Сяргей і Віялета Кучынскія (адказвае Сяргей):**



– Мы з Віялетай сустрэліся ў 2009 годзе, калі яна прыехала з Ваўкавыска ў Мінск вучыцца. Пазнаёміліся мы на сустрэчах моладзі, якія адбываліся ў Архікатэдральнам касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Віялета знайшла гэты касцёл выпадкова, але ён ёй адразу спадабаўся, і яна вырашыла яго наведваць. Ад таго часу наш шлях пралягаў побач, і ён у значнай ступені звязаны з Касцёлам: мы спяваем у парафіяльным хоры Gloria, зараз з малым дзіцём не атрымліваецца, але, спадзяёмся, што гэта часова. Таксама мы належым да дамініканскага ордэна свецкіх.

Наша ўзаемная сімпатыя ўзрастала. Праз чатыры гады мы пачалі сустракацца, а яшчэ праз паўтара года ўзялі шлюб. Зараз нашай сям'і шэсць з паловай гадоў, мы маем сыночка Даміника (два гады і чатыры месяцы) і чакаем нараджэння яшчэ і дачкі. Дзеці патрабуюць шмат высілкаў і ахвярнасці, але гэта такое шчасце – любіць гэтых маленькіх чалавечкаў і адчуваць іх любоў да цябе!

Сям'я для мяне з'яўляецца адной з найважнейшых частак жыцця. Магу з упэўненасцю сказаць, што вера ў Бога – гэта той падмурак, на якім мы з Віялетай будавалі свае адносіны ад пачатку і на якім зараз нашая сям'я стаіць. Агульнае і супольнае духоўнае жыццё (малітва, духоўныя практыкі ордэна, наведванне Касцёла) вельмі спрыяе духоўнаму ўзрастанню, бо ў хвіліны цяжкасці ці ляноты ёсць чалавек, які падтрымае і дапаможа. Дзякую Богу за маю сям'ю!

**Гардзіенка Юрый і Паўліна (адказвае Паўліна):**



– Пазнаёміліся мы з мужам, калі ён далучыўся да нашага каталіцкага праекту “Рыбы”. Я грала на клавішах, а ён быў гітарыстам. Праз год у нас завязаліся адносіны. Галоўнай і першай умовай нашых адносінаў было тое, што мы будзем жыць у чысціні да шлюбу. Другой умовай – што гэтыя адносіны прывядуць да шлюбу і толькі. Праз два з паловай гады мы пажаніліся. Нашай сям’і сёлета будзе пяць гадоў. У нас ёсць дзве дачушкі: Моніка (3,5 гады) і Вера (1,8 гадоў). Яны цудоўныя малыя, вельмі сябруюць адна з адной. З самага дзяцінства мы бяром дзяўчынак з сабой у касцёл, расказваем пра Бога, Езуса і Марыю. Таксама ў нас ёсць штодзённая сямейная малітва перад сном, дзе мы дзякуем Богу за дзень, успамінаем усё, што было, гаворым свае просьбы. А затым молімся дзясятку Ружанца. Мы стараемся жыць так, каб Бог быў на першым месцы ў нашай сям’і. Імкнёмся казаць пра гэта нашым дзеткам. Жывём у даверы да Бога. І калі менавіта так і атрымліваецца, то ўсё ў нас добра, адчуваецца Божая рука над нашай сям'ёй.

**Андрэй і Юлія Якаўлевы (адказвае Андрэй):**

– Упершыню я ўбачыў Юлю на Імшы ў капліцы. Тады ў Наваполацку яшчэ не было касцёла, толькі драўляная каплічка. Юля вучылася ў музычнай вучэльні, а я – у нашым універсітэце. Паколькі я быў міністрантам, то абыходзіў са скарбонкай усю капліцу і бачыў усіх, хто прыйшоў. Мне адразу спадабалася прыгожая, сціплая дзяўчына, якая прыходзіла кожную нядзелю са сваёй сяброўкай. Памятаю, што мне было вельмі цікава, хто яна і адкуль. А пазнаёміліся мы значна пазней на адной з сустрэч моладзі, але, на жаль, зусім не памятаем, пры якіх абставінах.

Доўга мы былі проста добрыя знаёмыя, разам спявалі ў касцельным хоры, хадзілі ў пілігрымкі ды ўдзельнічалі ў шматлікіх сустрэчах моладзі. І нават разам бралі ўдзел у музычным праекце "Кадаш". Дзесьці чатыры гады мы проста сябравалі, з якіх адзін год – на адлегласці, бо Юля скончыла вучэльню і з’ехала ў Мінск вучыцца ва ўніверсітэце. Менавіта за гэты год мы больш зблізіліся, як гэта ні парадаксальна. А ўлетку таго ж года я зрабіў Юлі прапанову. Гэта было ў Будславе пасля начной Імшы.

Потым яшчэ два гады Юля вучылася ў Мінску, пазней прыехала і мы ўзялі шлюб. У мінулым годзе мы адзначалі юбілей – дзесяць гадоў нашай сям’і. У нас тры хлопчыкі: Даніку – 9, Філіпу – 7 і Франіку – 4. І марым, што Пан Бог нам падорыць яшчэ дзяўчынку. Мы адразу дамовіліся, што хочам шмат дзяцей. Вывучалі метад натуральнага планавання сям’і.

З сям’і ўсё пачынаецца. Мы хочам быць добрай хрысціянскай сям’ёй, якая падабаецца Богу. Хочам, каб нашыя дзеці выраслі ў атмасферы любові, прабачэння і міласэрнасці. Каб будаваць Божае Валадарства на зямлі.

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Інтэрв'ю з сястрой Таццянай Гмыза пра служэнне і працу ў Вільні

**Сястра Таццяна Гмыза з супольнасці сясцёр-эўхарыстак стала ўдзельніцай сённяшняга інтэрв'ю і распавяла пра сваё служэнне ў Вільні.**

**– Сястра, як Вы сапынуліся менавіта ў супольнасці сясцёр-эўхарыстак?**

– Калі я заканчвала школу, то задумвалася, кім хачу быць, што рабіць у жыцці, каб прыносіць карысць. Я ведала, што такія пытанні трэба задаваць Богу. І калі ў Яго пытала, адчувала адказ, што Ён кліча да манаскага жыцця. Праз розныя знакі і натхненні я набірала ўпэўненасць, што гэта мае пакліканне. А чаму менавіта эўхарысткі, нават сама не ведаю. Гэта было дзеянне Бога, а мы не можам усё разумець, чаму менавіта так трэба. Проста неабходна ў маўчанні прымаць і разважаць у сэрцы, падобна як Абрагам, калі Госпад казаў яму прынесці ў ахвяру сына. Не ўсё мы можам патлумачыць.

**– Раскажыце крыху падрабязней пра Вашу супольнасць. Што адметнае ў харызме ордэна?**

– Кангрэгацыя Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі – гэта манаская супольнасць, якая цалкам прысвяціла сябе малітве і апостальскай дзейнасці ў Касцёле. Заснаваў супольнасць бласлаўлёны Юры Матулевіч, які ў 1923 годзе, калі з'явіліся эўхарысткі, быў Віленскім біскупам. Месцам заснавання кангрэгацыі стала Друя – невялічкае мястэчка на беразе Дзвіны на мяжы з Латвіяй.

Харызмат, вызначаны заснавальнікам: навучанне хрысціянскаму жыццю і выхаванне дзяцей і моладзі ў каталіцкай веры, а таксама пашырэнне сакраментальнага жыцця, асабліва эўхарыстычнага, ва ўсіх асяроддзях.

Духоўнасць кангрэгацыі абапіраецца на Эўхарыстыю. У канстытуцыі эўхарыстак напісана: "Цэнтрам духоўнага жыцця і апостальскай дзейнасці ўсёй супольнасці і асобных законніц з'яўляецца Езус Хрыстус у таямніцы Эўхарыстыі. Сёстры павінны імкнуцца ўвесь час як мага лепш пазнаваць Яго, наследаваць і любіць, жыць кожны дзень Яго духам".

Асаблівая любоў да Хрыста, прысутнага ў Эўхарыстыі, і прыклад заснавальніка вядуць эўхарыстак да любові Хрыста, Які прабывае ў Касцёле. Таму яны атачаюць Каталіцкі Касцёл вялікаю пашанаю і верна служаць яму сваёю малітваю, працаю і ахвяраю.

У сваёй апостальскай дзейнасці і ў адносінах з людзьмі эўхарысткі пашыраюць любоў да Хрыста, які прабывае на алтарах, а таксама заахвочваюць словам і прыкладам аддаваць Яму пашану ва ўсіх магчымых формах. Дэвіз кангрэгацыі – "Усё для Хрыста і праз Хрыста" – натхняе ўсё жыццё і дзейнасць сясцёр.

Сёння сёстры працуюць у Польшчы, Нямеччыне, Літве, Украіне, Расіі, Казахстане і, канешне, у Беларусі. Служаць у якасці катэхетак, арганістак, закрыстыянак.

Больш падрабязна пра нашую дзейнасць можна пачытаць на сайце eucharystki.wordpress.com

**– Колькі часу Вы ўжо працуеце ў Вільні?**

– З верасня 2020 года.

**– Якія карэктывы ўнесла пандэмія каранавірусу ў Ваша жыццё?**

– Вялізныя. Для мяне час каранціну быў вельмі цяжкі. Напрыклад, на Божае Нараджэнне і на Вялікдзень не было ў касцёле нікога. Не было сустрэч, заняткаў і нават простых размоў, таму што была забарона з прычыны каранціну. Таму я стала пытацца ў Госпада, навошта гэты час, як яго пераажыць і як служыць людзям у такіх умовах. Паколькі ўрокі ў школе трэба было праводзіць анлайн, я пачала творча падыходзіць да падрыхтоўкі, вучылася рабіць цікавыя прэзентацыі, здымаць відэа, ствараць гульні. У той час таксама стала актыўна весці старонку інстаграм sister_tatsiana, пасля прыйшло натхненне зрабіць рэкалекцыі для дзяўчат анлайн. І я бачу, што ва ўсім гэтым ёсць Божае бласлаўленне і плён. Плёнам з'яўляецца душа чалавека, якой я змагла дапамагчы, а таксама водгукі, што гэта сапраўды трэба. У інтэрнэце насамрэч больш магчымасцяў і можна ахапіць большую колькасць людзей. Думаю, што гэта вымаганне часу, і трэба выходзіць з зоны камфорту і шукаць новыя магчымасці. На сённяшні дзень я праваджу падрыхтоўку анлайн да споведзі. Таксама ўдзельнічаю ў розных курсах, якія адбываюцца анлайн, таму гэта дапамагае ў развіцці і разуменні, як трэба рабіць. Каб не гэтая сітуацыя з каранцінам, не прыйшло б у галаву выкарыстоўваць такі спосаб служэння і евангелізацыі.

**– Вышэй было ўзгадана пра заняткі ў школе. Вы хацелі выкладаць, мець адносіны з моладдзю, ці гэта здарылася выпадкова?**

– Я скончыла педагагічны ўніверсітэт таму, што мне на той час сказала настаяцельніца. Я ніколі не марыла быць катэхеткай ці настаўніцай. Але гэта было неабходна ў свой час. У Беларусі я взяла катэхезу і бачу, што гэта мне падабаецца і прыносіць плён. На сённяшні дзень я працую настаўніцай рэлігіі ў школе. Таму дыплом не проста так атрымала.

**– Якія яшчэ абавязкі ў Вас на сённяшні дзень?**

– Я працую ў дзвюх школах, праводжу катэхезы ў сваёй парафіі Святога Духа ў Грыгішках, а таксама займаюся падрыхтоўкай да Канфірмацыі ў парафіі бл. Юрыя Матулевіча. Яшчэ ўпрыгожваю кветкамі і дэкарацыямі касцёлы ў гэтых парафіях.

**– У Вільні ёсць беларуская парафія святога Барталамея. Ці звязаныя з ёй сёстры-эўхарысткі?**

– Так, канешне. Сёстры працавалі ў беларускай школе імя Францыска Скарыны і ў парафіі св. Барталамея доўгі час. Дарэчы, там я і сустрэла нашых сясцёр, калі на сто адсоткаў вырашыла быць эўхарысткай. Для мяне гэта асаблівае месца звязана з пачаткам майго знаёмства з сёстрамі. Цяпер жа там служыць манахіня з іншай кангрэгацыі.

**– Ці шмат сясцёр з Беларусі зараз працуе разам з Вамі?**

– У нашай Кангрэгацыі я адна з Беларусі працую ў Вільні. Раней нас тут было шмат.

**– Што для Вас, як для манахіні, з'яўляецца самай вялікай радасцю?**

– Калі адчуваеш, што праз цябе дзейнічае Бог і камусьці Ён праз цябе адказвае на малітвы. Калі параненая душа знаходзіць палёгку, а заблукалая бачыць святло. Я бачу, што маё жыццё не бессэнсоўнае, таму з лёгкасцю распачынаю кожны новы дзень і стараюся не траціць магчымасці служыць людзям.

**– А з якімі цяжкасцямі даводзіцца часам сутыкацца?**

– Як і кожнаму чалавеку... Не заўсёды ўсё атрымліваецца, не хапае часу. Але гэта часовыя цяжкасці.

**– Цікава, ці адчуваеце Вы асаблівую розніцу паміж жыццём у Літве і ў Беларусі?**

– Для мяне як для манахіні – не асаблівa. Толькі тым, што праца тут у школе. Трэба не толькі вучыць дзяцей і моладзь пра Бога, але яшчэ весці дакументацыю і выконваць усе патрабаванні, устаноўленыя кіраўніцтвам. Але само жыццё не адрозніваецца, бо правілы ў нас адныя і тыя ж.



**– Якія галоўныя адрозненні Вы заўважылі паміж каталікамі дзвюх краін?**

– Як і ўсюды, ёсць тыя, хто па-сапраўднаму любіць Хрыста і шукае адказы на пытанні, і тыя, што традыцыйна ходзяць у касцёл і прымаюць сакраманты раз на год. Тое, чаго мне не хапае тут, гэта сямейнай атмасферы з моладдзю, як, напрыклад, у тых парафіях, дзе я працавала. І тут мяне больш успрымаюць як настаўніцу, а не як сястру. Але гэта нюанс і маленькае адрозненне. Людзі ўсюды добрыя і ветлівыя. Я заўсёды ведаю, што, калі звярнуся па дапамогу, многія адгукнуцца.

**– Якія яны, літоўскія вернікі?**

– Падобна як і ў Беларусі. Ёсць традыцыйныя, а ёсць тыя, у каго гарыць сэрца і яны хочуць служыць. Паколькі тут рэлігія ёсць з дзяцінства ў школе, у людзей добрыя веды, і няма праблемы хадзіць у касцёл, але не заўсёды ёсць жаданне і патрэба. Яны заўжды гатовыя прыйсці на дапамогу, але не заўжды гатовыя падтрымаць ініцыятыву.

**– Што Вы можаце сказаць пра сітуацыю з пакліканнямі ў Літве?**

– У нашай Кангрэгацыі даўно нікога не было новага з Літвы. І наогул не так шмат цяпер ідзе ў кляштар, як і ва ўсім свеце. Але, я думаю, гэта таксама тое пытанне, на якое мы не маем адказу. Не ведаем, што Бог нам праз гэта хоча сказаць. Думаю, трэба задаваць пытанні і шукаць адказу.

**– Што б Вы пажадалі чытачам "Каталіцкага Весніка"?**

– Жадаю шукаць свайй дарогі ў жыцці і быць на сваім месцы. Каб людзі бачылі Вашыя добрыя ўчынкі і праслаўлялі Айца Нябеснага.

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***

# "Эўхарыстычная вясна". Адарацыя, якая доўжыцца ўжо 112 гадоў

**За харызмат свайго эўхарыстычнага Апостальства дзякавалі сёстры-кларыскі ў Кэтах (Польшча). 6 лютага споўнілася 112 гадоў з пачатку бесперапыннай адарацыі Езуса Эўхарыстычнага ў кляштары.**

6 лютага 1910 г. тагачасны кракаўскі суфраган біскуп Анатоль Новак упершыню выставіў Найсвяцейшы Сакрамант у санктуарыі для публічнай адарацыі днём і ноччу.

**Пастаянная малітва перад Найсвяцейшым Сакрамантам**

Сёстры пастаянна моляцца перад Езусам Эўхарыстычным у інтэнцыях, якія прыносяць парафіяне, пілігрымы і тыя, хто дасылае свае просьбы праз Інтэрнэт. У кляштары ёсць адзін з самых шматлюдных пастаянных канфесіяналаў на тэрыторыі Бельска-Жывецкай дыяцэзіі.

**Гісторыя сясцёр-кларысак ад Вечнай Адарацыі**

Ордэн кларысак ад Вечнай Адарацыі (OCPA) быў заснаваны ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Францыі. У яго стварэнне ўнеслі свой уклад два заснавальнікі: кс. Ян Хрысціцель Гёрлаўт і Маці Марыі ад св. Клары (Вікторыя Жазэфіна Буільво). У 1866 г. да супольнасці ў Труа ўступіла полька Людвіка Мараўская. У 1871 годзе яна перанесла на польскія землі ордэн францішканак ад Найсвяцейшага Сакраманту.

Спачатку сёстры спрабавалі заснаваць кляштар у Гранаве, а затым у Гнезна. У выніку германізацыі яны вымушаныя былі пакінуць Польшчу і пасяліцца ў Львове. Там узнікла больш дамоў. У цяперашні час ва ўсім свеце існуе 29 аўтаномных дамоў кларысак ад Вечнай Адарацыі, у тым ліку ў Францыі, Германіі, Аўстрыі, ЗША, Індыі і Бангладэш. У Польшчы ёсць восем такіх дамоў.

Сёстры прыехалі ў Кэты ў 1910 годзе дзякуючы сваёй заснавальніцы – слузе Божай Марыі Валянціне Лэмпіцкай. 6 лютага 1910 г. біскуп Анатоль Новак здзейсніў урачыстае выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту ў манастыры Кэты. У 1999 г. біскуп Тадэвуш Ракочы абвясціў гэтае месца мясцовым санктуарыем Вечнай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.



**Папа Бэнэдыкт XVI і "Эўхарыстычная вясна"**

У апошнія гады павялічылася колькасць касцёлаў і капліц, у якіх адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту доўжыцца 24/7. Папа Бэнэдыкт XVI назваў гэты працэс "Эўхарыстычнай вясной".

*Паводле ekai.pl*

*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***


Аўдыенцыя для фонда "Дом Духа і мастацтваў"

## Святому Айцу падарылі скрыпку, зробленую з вёслаў мігранцкіх лодак

**"Міласэрнасць Бога невымерна большая за нашы недахопы, памылкі і грахі", – нагадаў Папа Францішак падчас сустрэчы з дэлегацыяй італьянскага фонда "Дом Духа і мастацтва", паведамляе беларуская рэдакцыя Vatican News.**

Вязні, мігранты, маладыя маці, людзі з інваліднасцю, жыхары экзістэнцыяльных перыферый, пра якіх клапоціцца фонд, прымаюць удзел у розных відах рамесніцкай і мастацкай дзейнасці, у тым ліку з глыбокім хрысціянскім сімвалізмам: вырабляюць гостыі для эўхарыстычных цэлебрацый, ствараюць унікальныя музычныя інструменты, займаюцца вытворчасцю віна.

Падчас аўдыенцыі, якая прайшла 4 лютага ў Ватыкане, яны падарылі Папу "Марскую скрыпку" – інструмент, зроблены з вёслаў мігранцкіх лодак, а італьянскі кампазітар Нікола П'ёвані, лаўрэат прэміі Оскар за музыку да знакамітага фільма Рабэрта Беніні "Жыццё цудоўнае", сыграў на ёй адмыслова напісаную музычную кампазіцыю.

"Я дзякую ўсім вам: вы з'яўляецеся зернямі надзеі. Пры падтрымцы фонда "Дом Духа і мастацтваў" вы даяце сігналы супрацьдзеяння культуры адчужэння, на жаль, досыць распаўсюджанай. Вы намагаецеся будаваць з "адкінутых камянёў" дом, у якім дыхаецца паветрам грамадскага сяброўства, братэрства. Не ўсё лёгка – мы ведаем, не ўсё ўсыпана ружамі. Кожны мае свае недахопы, памылкі і грахі, але міласэрнасць Бога невымерна большая, і калі мы прымаем адно аднаго як браты і сёстры, Ён прабачае нам і дапамагае ісці наперад", – запэўніў сваіх гасцей Святы Айцец.

*Аляксандр Панчанка*

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6** сакавіка – дзень нараджэння адзначае кс. Зэнон Шчончар MS *(Відзы)*;

**7** сакавіка – дзень нараджэння адзначае а.Вальдэмар Кувя OFMConv *(Удзела)*;

**8** сакавіка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае а. Вадзім Мізер MIC *(Орша)*;

**17** сакавіка – дзень нараджэння адзначаюць кс. Уладзімір Грыгор'еў *(Іспанія)*, кс. Ігнат Санюта *(Ірландыя)*;

**18** сакавіка – дзень нараджэння адзначае біскуп Алег Буткевіч;

**28** сакавіка – дзень нараджэння адзначае кс. Аляксандр Амяльчэня *(Ватыкан)*; гадавіну святарскага пасвячэня адзначае кс. Вячаслаў Пялінак *(Пінская дыяцэзія)*;

**31** сакавіка – дзень нараджэння адзначае кс. Уладзіслаў Шарковіч *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
*Вікторыя Арфеева*

## Рубрыка "Разважаем над Божым словам"

**Запрашаем чытачоў "Каталіцкага Весніка" пачытаць рубрыку "Разважаем над Божым словам".**

Разважанні над зместам евангельскіх чытанняў кожную нядзелю з'яўляюцца на сайце Catholicnews.by. Аўтар разважанняў – ксёндз-канонік Віктар Місевіч, галоўны рэдактар газеты "Каталіцкі Веснік".



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Пазнай святога

Прайдзі новы тэст "Каталіцкага Весніка" і пазнай святога.

**1 На некаторых абразах яго можна ўбачыць з дзвюма свечкамі ў руках. Падказка: гэты святы – апякун лекараў.**



**А.** Святы Аўгустын;
**Б.** Святы Блажэй;
**В.** Святы Бэрнард.

**2 Гэтую святую часта можна пабачыць з рознымі музычнымі інструментамі.**



**А.** Святая Жанна;
**Б.** Святая Маргарыта;
**В.** Святая Цэцылія.

**3 Хто са святых трымае такую хустку з абліччам Езуса?**



**А.** Святая Марыя Магдалена;
**Б.** Святая Вераніка;
**В.** Святая Марыя.

**4 На абразах з гэтым святым часта прысутнічае сабака з боханам хлеба ў зубах. Імя святога...**



**А.** Святы Дамінік;
**Б.** Святы Францішак;
**В.** Святы Рох.

**5 Чорны хабіт – атрыбут святога...**



**А.** Андрэя Баболі;
**Б.** Айца Піа;
**В.** Францішка.

**6 Гэты святы апостал прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне. Ён быў прыбіты да крыжа ў форме літары "Х" .**



**А.** Святы Андрэй;
**Б.** Святы Барнаба;
**В.** Святы Тамаш.

**7 Часта мастакі паказваюць гэтага святога з Дзіцяткам Езусам на руках. Яго імя...**



**А.** Святы Антоній;
**Б.** Святы Аўгустын;
**В.** Святы Бэнэдыкт.

**8 Якога святога іканаграфія найчасцей выяўляе ў княжацкім адзенні з лілеяй у руках?**



**А.** Святога Марціна І;
**Б.** Святога Казіміра;
**В.** Святога Клімэнта І.

**9 На многіх абразах і скульптурах ён паказаны з ключамі ў руках...**



**А.** Святы Пётр;
**Б.** Святы Павел;
**В.** Святы Юзаф.

**10 Нярэдка сярод атрыбутаў гэтага святога можна ўбачыць ракавінку, якая з'яўляецца адметнай рысай паломнікаў. Імя святога...**



**А.** Якуб;
**Б.** Ян;
**В.** Шарбэль.

*Падрыхтавала*
*Ірына Радзевіч*

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Заступнік смарагдавай выспы

**17 сакавіка Каталіцкі Касцёл успамінае святога Патрыка – заступніка Ірландыі і Нігерыі.**

Будучы святы, апостал Ірландыі, нарадзіўся каля 385 – 390 гг. у рымскай Брытаніі. Шлях св. Патрыка да святасці і да Ірландыі быў нялёгкі. Сын рымскіх чыноўнікаў, якія служылі ў Шатландыі, у дзяцінстве быў выкрадзены ірландскімі піратамі і прададзены ў рабства. Працуючы пастухом у Ірландыі, шмат перадумаў і звярнуўся да рэлігіі. Нягледзячы на гады ў няволі, вельмі палюбіў Зялёны Востраў, яго жыхароў, вывучыў мясцовую мову. Ужо як свабодны чалавек, манах і святар Патрык марыў вярнуцца ў Ірландыю ў якасці місіянера.

Касцельныя ўлады бачылі праўдзівую любоў Патрыка да ірландцаў і таму выслалі яго як місійнага біскупа на гэтыя тэрыторыі. Хронікі сведчаць, што Патрык ішоў заўсёды туды, дзе Евангелле яшчэ не абвяшчалася. Быў чалавекам надзвычайнай духоўнай упэўненасці і сілы. Ён засноўваў кляштары, касцёлы і школы, а каля 440 г. сярод аднаго з язычніцкіх плямёнаў арганізаваў першае біскупства.

Дзейнасць святога выклікала моцнае супраціўленне з боку язычнікаў-друідаў, а таксама з боку некаторых рыцараў, якія займаліся разбоем на Зялёным Востраве. У іканаграфіі св. Патрык часта намаляваны ў адзенні біскупа са змеямі пад нагамі або з канюшынай. Гэта звязана з легендамі, якія распавядаюць пра цуд выгнання змеяў з Зялёнага Вострава, і перакананнем, што св. Патрык ужываў лісточкі канюшыны, каб растлумачыць таямніцу Святой Тройцы.

Дата смерці святога дакладна невядомая, як невядома і месца яго пахавання, але лічыцца, што ён пахаваны ў Даўнпатрыку (па іншых крыніцах – у Соўле). У некаторых старажытных жыццяпісах гаворыцца, што на працягу некалькіх дзён на цела памерлага з неба свяціла яркае святло. На месцы пахавання святога пабудавалі катэдру ў яго гонар. Шмат святыняў па ўсім свеце ўзведзена ў яго гонар, але найбольш вядомая – катэдра святога Патрыка ў Дубліне.

**Тры выдумкі пра святога Патрыка, якія не з'яўляюцца праўдай...**

**1. Патрык не быў піваварам**

Многія з тых, хто штосьці чуў пра свята святога Патрыка, ведаюць толькі тое, што ён неяк звязаны з хмельнай весялосцю, і святкаванне зводзіцца да ўжывання піва ў гэты дзень. Святы Патрык ніколі не быў піваварам. Больш за тое, у старыя часы падчас свята святога Патрыка ў Дубліне і па ўсёй Ірландыі зачыняліся ўсе пабы і адкрываліся ўсе касцёлы.

Кім жа быў святы Патрык насамрэч? Асноўным творам, які расказвае нам пра дзеянні святога Патрыка, з'яўляецца яго ж уласная "Споведзь" (Confessio — лац.), напісаная ім каля 460 года. Трэба сказаць, нямногія аўтары паўтаратысячагадовай даўніны пакінулі нам такое сведчанне сваіх унутраных перажыванняў. А вось пра піва там няма ні слова, бо насамрэч Патрык быў... хрысціянскім місіянерам, і мэтай яго жыцця была пропаведзь Уваскрэсення Хрыстова.

У "Споведзі" Патрык агаляе патаемныя куткі сваёй душы, расказвае пра пакаянне і малітву, апавядае пра тое, як ён шукаў Бога і як Бог у выніку знайшоў яго. Гэты дакумент адлюстроўвае шчырасць і рэдкую прастату святога Патрыка. Многія вучоныя працавалі над "Споведдзю", і на сённяшні дзень сапраўднасць аўтарства практычна не выклікае сумненняў. Але і гэта не ўсё. Да нас дайшоў яшчэ адзін твор Патрыка – яго гнеўны "Ліст да Каротыка", брыцкаму правадыру, які сабраў атрад скотаў і паўднёвых піктаў і здзейсніў набег на паўднёвае ўзбярэжжа Ірландыі, дзе забіў шматлікіх нованавернутых хрысціян, а многіх захапіў у палон для продажу. Каротык называў сябе хрысціянінам, таму Патрык піша яму пастарскае пасланне, молячы абразуміцца і пакаяцца, пакуль у таго яшчэ ёсць час. Такім чынам, з вывай вясёлага півавара Патрыка звязвае хіба што хмельная фантазія аўтараў рэкламы. Сапраўдная гісторыя і сама "Споведзь" паказваюць нам чалавека невераготнай шчырасці і духоўнай глыбіні, які да апошняга дня свайго жыцця нёс жывое слова пра Уваскрослага Госпада старажытным ірландцам.

**2. Патрык не быў... Патрыкам**

Не, ён, вядома, ім быў, але вось самае гэтае імя з'явілася не адразу і пры вельмі трагічных абставінах. Першапачаткова будучага святога звалі Магон. Яго сям'я была хрысціянская і належала да раманізаванай кельцкай шляхты. Ужо дзед Патрыка быў святаром, а бацька Патрыка – Кальпурній – насіў сан дыякана. Першыя шаснаццаць гадоў жыцця Магона праходзілі па-дзіцячы ціхамірна. Але вось у 405 годзе на вілу Кальпурнія напалі піраты, якія прыплылі з суседняй Ірландыі. Яны разграмілі дом, спустошылі землі і захапілі юнака ў палон.

Шаснаццацігадовы хлопчык сутыкаецца з жахам палону. Неўзабаве яго прадаюць у рабства, і ў знак знявагі даюць яму мянушку. Можна не сумнявацца, што тыя, хто прадаваў Магона, красамоўна жывапісалі багацце разрабаванай вілы яго бацькі і паведамілі пра шляхетнае паходжанне юнака. Новы гаспадар вырашыў даць палоннаму новае імя і пагардліва назваў свайго маладога раба Patricius – "знатны чалавек, патрыцый".

У ірландскім палоне змяняецца не толькі імя Магона – з ім адбываецца і змена ўнутраная. Ён знаходзіць веру, адкрывае для сябе Бога, і Бог адкрываецца яму. Дзіўна, але пазней, будучы ўжо паза кайданамі рабства і нават сустрэўшыся з бацькамі, Патрык не мяняе сваю рабскую мянушку. Ён ніколі больш не будзе насіць імя, атрыманае ім на волі. Да канца дзён сваіх Патрык будзе несці імя раба, звязанае з гадамі яго знявагі, але з якога, у той жа самы час, пачаўся яго зварот да Хрыста. Так патрыцый па нараджэнні стаў Патрыкам у Хрысце.




Шэсць гадоў Патрык знаходзіцца ў Ірландыі рабом, але гэта – шэсць гадоў духоўнага росту і малітоўнай творчасці. Нарэшце, аднойчы ўначы Патрык вырашаецца на ўцёкі. Ён трапляе на карабель, які экспартаваў знакамітых ірландскіх ваўкадаваў. Патрык прыбывае ў Галію, дзе і жыве нейкі час, пакуль у 432 годзе не атрымлівае слова ад Бога – вярнуцца туды, адкуль цудоўна быў выратаваны.

Гэта быў цяжкі крок, але Патрык падпарадкоўвае сваю волю волі Бога, таму што, паводле яго ўласнага слова, "Бог даўно ўжо перамог ува мне". Святы нясе евангельскую радасць той зямлі, якая прынесла яму шмат гора.

**3. Патрык не быў ірландцам**

Справа ў тым, што ў свядомасці ўсякага жыхара смарагдавай краіны Патрык і Ірландыя неразлучныя, як авечкі і пастух. Само другое імя ірландца – "пады" – кажа пра тое, што для яго Патрык – гэта першы ірландзец на зямлі, самы галоўны і стоадсоткавы. Але факты ёсць факты. Самы ірландскі ірландзец быў не ірландцам, а брытанцам. Калі ў 432 годзе Патрык пачынаў сваё нялёгкае служэнне ў Ірландыі, яму дапамагала адно толькі спадзяванне на Бога. Патрыку было тады каля сарака гадоў, і на працягу наступных шасцідзесяці гадоў ён прапаведуе Евангелле і навяртае жыхароў Ірландыі ў хрысціянства.

Яму даводзілася сутыкнуцца з рэакцыяй мясцовых правадыроў, злосцю друідаў, проста чалавечымі забабонамі. Дастаткова ўспомніць адзін выпадак з жыцця святога Патрыка, калі нехта Дзіху, убачыўшы чужаземца, выхапіў свой меч і хацеў забіць святога, але яго рука застыла на паўдарозе, страціўшы здольнасць рухацца. Пасля гэтага Дзіху стаў больш прыязным і нават падарыў Патрыку вялікі будынак, дзе сталі праходзіць першыя службы.

Усяго праз пяцьдзясят гадоў пасля пачатку місіі хрысціянства канчаткова ўмацоўваецца на землях Ірландыі, і разбойніцкі востраў, які наводзіў жах на ўсе суседнія краіны, змяняецца. У раннім Сярэднявеччы Ірландыю будуць называць няйначай як "выспай святых". А складзены ў VIII стагоддзі спіс ірландскіх святых часоў святога Патрыка змяшчае ўжо трыста пяцьдзясят імёнаў – галоўным чынам заснавальнікаў касцёлаў, біскупаў, людзей, якія праславіліся хрысціянскімі подзвігамі.

*Падрыхтавала Вікторыя Арфеева*

# Стали известны планы по реставрации Национального санктуария в Будславе

**Планы по реставрации расписаны на 11 лет. Только в 2033 году запланировано окончание восстановления интерьеров.**

Стало известно о планах работ в будславском костеле на 2022 и последующие годы. Католический Национальный санктуарий сообщил в своем Instagram, что первоначальная задача – завершить укрепление купола, а при наличии средств – восстановить купольную живопись. Также в этом году продолжится комплекс научно-исследовательских работ и мониторинг состояния конструкций, будут вестись проектные работы.

Планы на последующие годы – укрепление фундаментов. Стены и своды изобилуют трещинами, поэтому их тоже будут укреплять. Временное покрытие кровли демонтируют и сделают постоянную крышу до 2024 г. Наиболее длительный процесс – реставрация интерьеров, которая запланирована на 2024-2033 гг. Вопрос о реставрации органа пока остается открытым.

Также сообщается, что на работы после пожара в храме собрано почти 1,4 млн рублей, основная часть – пожертвования от физических лиц. Национальный санктуарий Матери Божьей Будславской благодарит жертвователей и надеется, что материальная и молитвенная поддержка продолжатся.

Кстати, в последние дни в Будславе вновь пришлось




работать альпинистам: очищать от снега крышу, чтобы не допустить угрозы ее обрушения.

*katolik.life*

# Ці грэх карыстацца кантрацэптывамі?

**“Хвала Иисусу Христу! Хочу спросить у вас совета. Я живу в венчаном браке с мужем, и мы используем контрацепцию – презерватив (мне 39 лет, двое детей, больше не планирую, есть риски по здоровью). Препятствует ли это (контрацепция) мне приступать к Причастию?”**



— Прапаную Вам самой адказаць на гэтае пытанне, якое змяшчае ў сабе вельмі істотную справу – разуменне ўвогуле сутнасці сужэнскага акту і ўплыву на яго сучаснай ментальнасці. Распачнём з самога разумення касцельнага сужэнскага саюзу. Св. Ян Павел ІІ у кнізе “Тэалогія цела” піша, што шлюб – гэта натуральны інстытут, усталяваны Богам у самым пачатку стварэння свету.

> **Шлюб паміж ахрышчанымі з’яўляецца сакрамантам, гэта значыць святым знакам любові Бога да чалавека,**

любові Езуса Хрыста да Касцёла. Той, хто прымае сакрамант шлюбу, абавязваецца перад Богам і перад супольнасцю быць у сваіх адносінах з сужэнцам бачным і верным знакам любові Бога да чалавека і любові Хрыста да Касцёла. Таму ў сакраманце сужэнства маладыя пакліканыя ўзрастаць у еднасці з Богам і паміж сабой. Бо канчатковая мэта хрысціянскага шлюбу – гэта святасць сужэнцаў, якая дасягаецца праз усе падзеі сужэнскага і сямейнага жыцця. Пасля шлюбнай згоды кожны з бакоў ужо належыць іншаму, муж і жонка назаўжды становяцца адзіным цэлым.

Чаму кантрацэпцыя разбурае сям’ю? Людское цела ў мужчынскім і жаночым яго родзе паводле самога акту стварэння, як гэта вынікае з аналізу вершаў 2,23-25 Кнігі Быцця, не толькі з’яўляецца інструментам нараджэння дзяцей, але ад пачатку носіць шлюбны характар. Гэта значыць, яно здольнае выяўляць любоў, дзякуючы чаму чалавек як асоба становіцца дарам, пацвярджаючы такім чынам глыбокі сэнс уласнага быцця. Калі разуменне цела зведзенае толькі да ўзроўню інстынктаў, калі цела не з’яўляецца выразам духа, то гэта не можа спрыяць развіццю саюза як супольнасці людзей, створаных “на вобраз Божы”. Сама па сабе сэксуальнасць не аб’ядноўвае, а прысвойвае. Адносіны самаадданасці замяняюцца адносінамі прысваення.

У гэтым кантэксце сужэнскі акт, які здзяйсняюць сужэнцы з выкарыстаннем кантрацэпцыі, – паступовае разбурэнне евангельскых асноў інстытута шлюбу і сям’і. Кантрацэпцыя – гэта сродкі, тэхніка кіравання сужэнскім актам і кантроль над нараджальнасцю. Гэта аддзяленне інтымнай блізкасці сужэнцаў ад магчымай пракрэацыі. Паколькі гэта супярэчыць натуры сужэнства, то выкарыстанне такіх сродках можна аднесці да катэгорыі граху. У такім грахоўным сужыцці кожны становіцца аб’ектам пажадлівасці, узаемнага выкарыстання, а не добраахвотным дарам.

Вонкава навязаная чалавеку т.зв. кантрацэптыўная ментальнасць непарыўна звязана з крызісам у духоўна-маральнай сферы сучаснага “цывілізаванага” свету. Фактар задавальнення перамог біялагічную абумоўленасць працягу роду. Сучасныя віды “сродкаў кантролю над нараджальнасцю” і “сродкаў рэгуляцыі зачаццяў” прыводзяць да “штучнага бясплоддзя” – гэта планаванне небыцця сям’і як супольнасці любові і даверу, што часта вядзе да адсутнасці ўзаемапаразумення, а ў выніку да разводу, дэпрэсій і нязноснай адзіноты.

Вучэнне Касцёла на дадзеную тэму адназначнае, і гэта не цяжар ці абмежаванне, накладзеныя на род людскі, але дапамога, якая служыць дабру чалавека, яго целу і душы. Згодна з традыцыйным тлумачэннем гісторыі Анана з 38 раздзела Кнігі Быцця,

> **кантрацэпцыя заўсёды асуджалася Каталіцкім Касцёлам як грэх, якому няма апраўдання.**

Такі падыход падтрымліваецца і ў Новым Запавеце (Гал 5,19-20; Ап 9,21). У сваёй энцыкліцы Humanae Vitae у 1968 г. Папа Павел VI пацвердзіў вучэнне Касцёла. Св. Ян Павел ІІ у энцыкліцы Evangelium Vitae зрабіў наступны крок у дадзеным вучэнні, дэмаскуючы саму “кантрацэптыўную ментальнасць”. Яна зусім супрацьлеглая таму, чым ёсць адказнае бацькоўства і мацярынства, якое перажываецца з захаваннем усёй поўні і прыгажосці сужэнскага акту. Натуральным плёнам гэтай узаемнай адданасці, калі такая воля Бога, будзе з'яўленне новага жыцця.

Эфектыўная кантрацэпцыя ставіць мэту – “засцярога”. У рэчаіснасці гэта “засцярога” накіравана супраць дзіцяці. На практыцы падыход да дзіцяці становіцца ўсё больш негатыўным, да яго пачынаюць ставіцца як да няпрошанага агрэсара. Непазбежнымі тады становяцца сэксуальныя паводзіны, заснаваныя на моцных эмацыйных перажываннях і цалкам пазбаўленыя адказнасці. Дзіця ўспрымаецца як непажаданы, “пабочны прадукт” такіх сэксуальных “радасцяў”.

**Слоўнікавы запас жыцця**

Кантрацэптыўная ментальнасць дае нам на сённяшні дзень жудасны па сваім змесце слоўнікавы запас, якім мы, не задумваючыся, з лёгкасцю карыстаемся. Вось словы, што адлюстроўваюць такую ментальнасць: аборт, бяспечны сэкс, бяры ад жыцця ўсё, выкідыш, будучая мама (як быццам цяжарная жанчына яшчэ не мама!), натуральная кантрацэпцыя, жаданае дзіця (а ёсць нежаданыя?!), плод (а не чалавек!), мець дзіця (як сабачку, коціка і г.д.), штучнае апладненне, кантроль нараджальнасці, небяспечныя дні, пладзіць галечу, засцярога, перапыненне цяжарнасці, стэрылізацыя, чыстка і г.д. аж да ключавога паняцця названага ланцужка – смерці.

Гэтыя словы складаюць частку сучаснай мовы, і

> **многія не заўважаюць, як уносяць у жыццё праклён замест благаслаўлення.**

Без кантрацэпцыі жыць не толькі магчыма, але і трэба. Сямейная пара пакліканая вывучаць сумесную шлюбную плоднасць, натуральнае планаванне сям’і і метады распазнання плоднасці (МРП). Варта таксама ўзброіцца мовай правільных паняццяў са слоўніка жыцця. Напрыклад, “благаслаўлёныя дні” – так называюцца дні, якія прынята лічыць “небяспечнымі”. Гэта дні, у якія магчыма зачацце дзіцяці, што з’яўляецца благаслаўлёным дарам Пана. У жыцці жанчыны не больш за 4% такіх дзён, якія распазнаць не так складана, калі выкарыстоўваць для гэтага МРП. “Благаслаўлёны стан” – так у даўнія часы называўся ўнікальны стан у жыцці жанчыны, што цяпер называецца цяжарнасцю. “Зачаць дзіця”, “нарадзіць” – гэта замест слоў “заляцець”, “завесці”, “мець” дзіця. Чалавека “мець” нельга, яго можна сустрэць, прыняць, усынавіць, зачаць, нарадзіць. “Сужэнская блізасць” – дакладны тэрмін замест распаўсюджаных, нясгушных выразаў і паняццяў: “займацца каханнем”, “палавы акт”, “сэксуальныя або палавыя адносіны”, “бяспечны сэкс”, “выканаць абавязак”, “пераспаць”, “палавы партнёр” і г.д.

**Рэцэпт шчаслівай сям’і**

Сакрамантальная сям’я ў хрысціянскім вымярэнні характарызуецца непарыўнасцю сужэнскага саюзу, дзе мужчына і жанчына любяць адно аднаго, іншымі словамі, гэтую супольнасць асобаў злучае любоў. Супольнасць любові па сваёй сутнасці адкрытая на жыццё, на працяг роду. Яна здольная будаваць свае адносіны з Богам, наладжваць гарманічныя сужэнскія стасункі, адносіны з чальцамі сям’і ў пакаленнях, са светам і дзяржавай. Натуральная здаровая сям’я здольная ў радасці прыносіць здаровае, сацыяльна адаптаванае патомства, якога дастаткова не толькі для прамога замяшчэння пакаленняў, але і для здароўя нацыі. Здаровая сям’я дае найлепшую падрыхтоўку да шлюбу маладому пакаленню. Так, пераважываны сужэнскі саюз – гэта аснова цывілізацыі жыцця.

У гэтым кантэксце экалогія сужэнства з’яўляецца важным інструментам для аднаўлення сямейнай цноты. Метад распазнання плоднасці (знаёмства з якім прадугледжвае падрыхтоўка пары да сакраманту шлюбу) не з’яўляецца самамэтай, але для большасці людзей выступае неабходнай прыладай для цнатлівага жыцця ў шлюбе.

Муж і жонка, якія выкарыстоўваюць МРП штодня, ведаюць аб сваёй плоднасці. Калі яны лічаць, што ў дадзены момант было б безадказна зачаць дзіця, яны ўстрымліваюцца ад сужэнскага акту (што, дарэчы, адбываецца падчас камандзіровак, хвароб, адсутнасці магчымасці пабыць сам-насам і г.д.) да таго моманту, пакуль не надыходзіць фаза цыклу, у якой зачацце немагчымае.

Калі ж шлюбныя пары звяртаюцца да натуральнага планавання, гэта значыць, да перыядычнага ўстрымання ў дні фертыльнасці, “рызыка” зачацця заўсёды бярэцца пад увагу. Прымаючы рызыку зачацця, муж і жонка ідуць па шляху логікі ўзаемнага дару, якая выключае пазбаўленне ад зачатага дзіцяці.

Падсумоўваючы, хочацца заахвоціць Вас і Вашага каханага мужа да супольнай малітвы, супольнага наведвання касцёла, па магчымасці да ўдзелу ў сужэнскіх спатканнях, а нават рэкалекцыях для сем’яў. Чаму? З мэтай аднавіць свядомасць ласкі сакраманту шлюбу і невымоўных дабрадзействаў, якія з яго вынікаюць для пашлюбаваных. Бо без аднясення да істоты хрысціянскага шлюбу, яго прыгажосці, адзінства, гармоніі і дабра сужэнцаў казаць пра практыкаванне сужэнскай цнатлівасці немагчыма. Але калі даверыцца Богу і стаць на евангельскі шлях разумення сужэнства, то Ваша сужэнская любоў будзе станавіцца больш моцнай, бо сам Пан асвяціць яе сваёй прысутнасцю паміж Вамі.

*Літаратура:*

*Дэвид Ф. Прентис (перевод и адаптация: Владислав Волохович), Влияние контрацепции на общество и Церковь / Благотворительный фонд "Открытые сердца" (prolife-belarus.org).*

*Наталья Пузанова, Иллюзии о контрацепции / Благотворительный фонд "Открытые сердца" (prolife-belarus.org).*

*Наталья Пузанова, Путь свободы или тайна целомудрия / Благотворительный фонд "Открытые сердца" (prolife-belarus.org).*

*Наталья Пузанова, Безопасный секс? / Благотворительный фонд "Открытые сердца" (prolife-belarus.org).*

*Владислав Волохович, Маски цивилизации смерти / Благотворительный фонд "Открытые сердца" (prolife-belarus.org).*

*Владислав Волохович, Контрацепция – угроза для современной семьи / Благотворительный фонд "Открытые сердца" (prolife-belarus.org).*

***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі (Віцебск)*

### Хвала Хрысту!



*Шаноўны і дарагі наш **ксёндз-пробашч Вадзім**! Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах віншуюць Вас з днём народзінаў!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу, што ў нас служыць такі шчыры ў малітве святар, які вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі, заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага чалавека. Мы сардэчна дзякуем ксяндзу-пробашчу за вялікую працу ў нашай парафіі, за дабрыню, за клопат пра кожнага, за прыемную атмасферу і за лагодную ўсмешку!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і нястомнасці ў служэнні Богу і людзям, шчырых вернікаў, поспехаў у ажыццяўленні ўсіх планаў і задумаў! Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці! Багатага плёну Вам у працы на Божай ніве!*

*Вельмі ўдзячныя мы Вашым бацькам за тое, што выхавалі такога слаўнага, добрага сына – святара! Здароўя ім на доўгія гады і апекі Маці Божай!*

***Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах***

### Хвала Хрысту!



*Шчырыя віншаванні і пажаданні ў спалучэнні са штодзённай малітвай дасылаем нашаму **ксяндзу-пробашчу Віктару Сініцкаму SCJ**, які 25 лютага адзначае Дзень нараджэння і імяніны!*

*Няхай Міласэрны Бог адорыць Вас, наш душпастыр, патрэбнымі ласкамі, Дух Святы хай асвячае розум і сэрца, Анёл-апякун хай чувае побач у кожнае імгненне Вашага жыцця!*

*Мы просім для Вас, наш паважаны, добразычлівы, клапатлівы айцец Віктар, моцнага здароўя, здзяйснення ўсіх Вашых мараў і жаданняў, плёну ў пастырскім служэнні. Хай нічога не засмучае Вашае сэрца, а вочы заўсёды праменяцца радасцю і дабрынёй!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*16 лютага адзначыў Дзень нараджэння пробашч Рубяжэвіцкай парафіі **ксёндз Уладзімір Каспарэвіч.***

*Шаноўны ксёндз Уладзімір! Прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, сілы, цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою! Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых вернікаў на Вашым шляху! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі і падтрымлівае ў цярпенні!*

*Мы шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай капліцы, за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, Галіна Ярашынская са сваёй сям'ёй з вёскі Вялікія Навікі***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра дзякуем за спагаду, за малітвы і за духоўную падтрымку **ксяндзу Паўлу Самсонаву, ксяндзу Андрэю Таўруку, пеўчым Алене Татун і Людміле Дырко** падчас пахавання дарагой нашым сэрцам Ганны Квач. Няхай Пан Бог шчодра Вам аддзячыць!*

***Родныя***

# Пілігрымка ў Тракелі ўдзельніц малітоўнага руху “Маці ў малітве” з Гродзенскай дыяцэзіі

**У санктуарыі Маці Божай Каралевы сем’яў у Тракелях прайшла дыяцэзіяльная сустрэча малітоўнага руху “Маці ў малітве”. На мерапрыемства прыехалі жанчыны з розных куткоў Гродзенскай дыяцэзіі, якіх яднае любоў да сваіх дзяцей і Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Сустрэча пачалася ў Марыйным садзе, дзе маці разам з Марыяй прайшлі Крыжовы шлях, разважаючы над галоўнымі таямніцамі пакутаў Езуса. Удзельніцы прасілі, каб іх сэрцы напоўніліся жалем за грахі і ўдзячнасцю за Яго любоў.

Пасля малітвы іх чакаў супольны абед. Нефармальная атмасфера спрыяла новым знаёмствам і цікавым гутаркам.

Радасць сустрэчы раздзяліў з матулямі кусташ санктуарыя кс. Юрый Бяганскі, які цэлебраваў святую Імшу, маліўся ў інтэнцыі ўсіх маці і за дзяцей, а таксама дзякаваў Богу за такую патрэбную супольнасць.

У гаміліі святар падкрэсліў, што кожная супольнасць у Касцёле паўстае з натхнення Духа Святога. “Менавіта Дух Святы згуртаваў вашы сэрцы, каб трываць супольна ў малітве”, – заўважыў ён.

Кусташ адзначыў, што кожная маці павінна быць прыкладам для сваіх дзяцей, удзельнічаць у жыцці Касцёла, быць гатовай абараніць веру, заўсёды быць вернай Хрысту і Яго запаведзям.

Святар заахвоціў больш пазнаваць Бога, пацвярджаць сваю веру добрымі ўчынкамі, рэгулярна яднацца з Панам падчас святой Камуніі, запрашаць Найсвяцейшую Панну Марыю на штодзённую малітву.

Пасля Імшы адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

На заканчэнне сустрэчы кусташ запрасіў удзельніц руху “Маці ў малітве” ў пешую пілігрымку з Ліды, якая пройдзе ў першую нядзелю мая (Дзень маці ў Гродзенскай дыяцэзіі).

Увесь дзень быў напоўнены для сабраных праслаўленнем Пана, пазнаннем новых людзей і святога месца, дзе знайшла свой дом Маці Божая.

*grodnensis.by*




# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марыя Вішнеўская** *(Мёры)*, **Тацццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Соф’я Рагіня** *(Сарокі)*, **Тэрэза Лешчык** *(Сарокі)*, **Валянцін Бартко** *(Сарокі)*, **Эмілія Клепацкая** *(Сарокі)*, **Гулевіч П.П.** *(Рудня Нісімкавічская)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Станіслава Кавалёнак** *(Прусы)*, **Тэрэза Вdespite Вярановіч** *(Докшыцы)*, **Галіна Ярашынская** *(Мінск)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Часлава Далман** *(Коўзаны)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Соф’я Кашчыц** *(Навасады)*, **Тэрэза Хвайніцкая** *(Руткевічы)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Марыя Лекарэвіч** *(Ярэва)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб’е)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Леангіна Давыдзенак** *(Усцье)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф’янава)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

# Чалавек і прыватная ўласнасць: быць ці мець?

**Духоўнае вымярэнне чалавека: несмяротная душа, розум і вольная воля – чыняць яго вобразам і падабенствам да Бога, надаючы чалавечай асобе асаблівую годнасць. Аднак чалавек – гэта не толькі душа, але і цела. А значыць, акрамя духоўных патрэбаў яму неабходна заспакоіць і матэрыяльныя. Касцёл навучае, што імкненне да дабрабыту з'яўляецца натуральным правам чалавека, а валоданне маёмасцю – неабходнай умовай для яго годнага жыцця.**

Пытанне прыватнай уласнасці настолькі важнае, што Бог даў нам асобную запаведзь – "не крадзі", якая забараняе забіраць, няслушна ўтрымліваць ці неяк шкодзіць маёмасць, што належыць бліжняму. У той жа час яна загадвае справядліва і з любоўю распараджацца матэрыяльнымі дабротамі і плёнам працы чалавечых рук. Сёмую запаведзь інакш можна сфармуляваць, як "беражы і шануй агульнае дабро і прыватную ўласнасць чалавека".

Сапраўдным уладаром усяго з'яўляецца Бог. Ён кажа: "Мая зямля, а вы – прыхадні і пасяленцы ў Мяне" (Лев 25,23). Шчодрасць Божых дароў аддадзена, аднак, чалавеку, каб ён імі правільна распараджаўся. З самага пачатку Пан даверыў зямлю і яе багацці супольнаму валоданню ўсяго чалавецтва. Усё, што Ён стварыў, прызначана для ўсяго чалавечага роду. Людзі ж як распарадчыкі гэтых багаццяў павінны памнажаць іх і раздзяляць іх плён паміж сабой, з чаго яны таксама дадуць справаздачу перад Богам. Клопат пра супольнае дабро, аднак, не супярэчыць праву чалавека мець прыватную ўласнасць. Наадварот, уласныя рэчы могуць прынесці карысць не толькі яму самому, але і бліжнім.

Валоданне дабротамі адпавядае чалавечай натуры і годнасці. Сацыяльнае вучэнне Каталіцкага Касцёла бароніць прыватную ўласнасць як штосьці неабходнае для жыцця і аўтаноміі чалавека. Права на валоданне прыватнай уласнасцю – рэчамі, грашыма, нерухомасцю, інтэлектуальнай маёмасцю і так далей – вынікае наўпрост з права чалавека на жыццё, з таго, што ён з'яўляецца асобай, разумнай і вольнай. Каб падтрымліваць жыццё і развівацца, чалавеку абавязкова патрэбныя нейкія даброты. Прыватная ўласнасць задавальняе матэрыяльныя патрэбы чалавека і адначасова спрыяе яго духоўнаму развіццю. Кожная асоба мае права на прыватную ўласнасць у такой меры, у якой гэта неабходна для захавання яе існавання. Асноўнай крыніцай набыцця чагосьці ва ўласнасць з'яўляецца сумленная праца і творчасць.

Чаму важна не толькі "быць" але і "мець"? Чалавек з'яўляецца разумным і вольным па сваёй натуры. Калі ён мае нейкую маёмасць, ён можа ўплываць на свой лёс, планаваць жыццё, вырашаць, што купляць ці што есці. Ён можа творча падыходзіць да будавання свайго жыцця, сваёй будучыні. Чалавек без уласнасці становіцца залежным ад дзяржавы, ад сістэмы, ад тых, хто яго кантралюе, такому чалавеку цяжэй зразумець сваю годнасць як асобы. Кантроль аўтарытарнай дзяржавы над уласнасцю з'яўляецца моцным інструментам кантролю над усім грамадствам. Толькі дзякуючы паўсюднаму дабрабыту асобы, сем'і, іншыя структуры і ўсё грамадства могуць захаваць вольнасць, важную для іх правільнага развіцця.

Маёмасць – гэта неабходная рэч, каб заспакоіць асноўныя патрэбы чалавека ў фізічнай сферы. Гэта сродак для дасягнення мэтаў і выканання жыццёвых абавязкаў: сямейных, працоўных, грамадскіх. Да таго ж прыватная ўласнасць спрыяе духоўнаму развіццю чалавека, дае магчымасць практыкаваць маральныя дабрадзейнасці, любоў да бліжняга.

Тым не менш варта адказна падыходзіць да распараджэння дабротамі і ўдасканальвацца ў гэтым уменні. Каб іх не змарнаваць і не стаць іх нявольнікам. Не важна, колькі чалавек мае, галоўнае – яго ўнутраная настаўленасць на тое, што ён мае, на якое месца ён ставіць тыя ці іншыя даброты. Часта можна пачуць, што грошы псуюць людзей, ды і Пан Езус папярэджваў, што багатаму цяжка ўвайсці ў Валадарства Нябеснае (Мц 19,23). Аднак памятайма, што не з'яўляецца чымсьці кепскім уласнасць сама па сабе, але яе дрэннае выкарыстанне.

Беднасць зусім не з'яўляецца станам, да якога чалавек павінен імкнуцца, каб быць больш чалавечным. Нават наадварот, яна можа быць перашкодай у развіцці асобы і рэалізацыі яе жыццёвага паклікання. Беднасць, убоства можа стаць вынікам несправядлівасці грамадска-эканамічнай сістэмы, граху, злачынства, ляноты ці занядбання. Недахоп сродкаў можа ўвесці чалавека ў роспач, схіліць да граху (напрыклад, каб здабыць сродкі, патрэбныя для жыцця, ён можа карыстацца незаконнымі метадамі), ён можа страціць пачуццё ўласнай годнасці.

Багацце ж, у сваю чаргу, – гэта стан, да якога асобы, сем'і, супольнасці і ўсё грамадства можа і павінна імкнуцца. Калі гэтае багацце здабытае годна, то яно служыць абароне годнасці



і выкананню паклікання чалавека. Яно дапамагае рэалізаваць вольны выбар, забяспечыць сваю будучыню і будучыню нашчадкаў. Дзякуючы заможнасці чалавек можа адарвацца ад бясконцага клопату пра асноўныя фізічныя патрэбы і звярнуцца да духоўных, культурных патрэбаў, нават да развіцця рэлігійнага жыцця. Вядома, трэба заўжды памятаць пра небяспеку хцівасці і таму старацца кіраваць даброты гэтага свету на справы Божыя і братнюю любоў.

З іншага боку, багацце не можа быць мэтай само па сабе. Проста, каб больш "мець". Мэтай з'яўляецца сам чалавек, катораму гэта ўласнасць павінна служыць, яго развіццю як асобы, каб больш "быць". Багацце не дзейнічае аўтаматычна, бо ўсё, чым распараджаецца чалавек, можа быць выкарыстана ім добра або дрэнна. Можа ўзнікнуць праблема хранічнай недасычанасці, калі чалавек прагне мець усё больш і больш.

У XX стагоддзі з'явіўся нават такі выраз, як "цывілізацыя спажывання". Яна характарызуецца надмерным выдаткаваннем сродкаў на непатрэбныя рэчы, часта штучна навязаныя вытворцамі і рэкламай. Прыбытак, аднак, не можа быць апошняй мэтай гаспадарчай дзейнасці. Бо тады чалавек становіцца толькі спажыўцом, сродкам для дасягнення гэтага прыбытку, што ў сваю чаргу знявольвае чалавека і вядзе да паклалнення грашам.

Хрысціянскі ж ідэал гаспадарчага жыцця абапіраецца на веру ў годнасць і несмяротнасць чалавечай душы, на магчымасці будавання сапраўднай супольнасці па прынцыпах любові і справядлівасці. Гаспадарчая дзейнасць і ўласнасць чалавека павінна служыць вечнай мэце, якой ёсць Валадарства Нябеснае, а не перашкаджаць ёй. У гэтым яму дапамагаюць цноты: умеркаванасць, каб дасягнуць раўнавагі ў імкненні да прыемнасці і ўжыванні часовых даброт; справядлівасць, каб шанаваць правы іншых людзей; салідарнасць, што заключаецца ў праяўленні братняй любові і сяброўства да ўсіх чалавечых супольнасцяў і ў клопаце пра агульнае дабро.

Чалавек павінен "мець" дзеля таго, каб ён мог "быць" больш шчодрым, велікадушным, адказным за свой лёс, за дабрабыт сваёй сям'і і супольнасцяў, да якіх ён належыць. Каб не трапіць у пастку хцівасці і спажывання, трэба прасіць Бога аб выкананні Яго волі і не забывацца, што дух заўжды мае першынство перад матэрыяй, а чалавек – перад рэччу.

*с. Дар'я Галубкова OV*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як лепш маліцца. Падказкі св. Ігнацыя

**Акрамя таго, што св. Ігнацый Лаёла заснаваў Таварыства Езуса (ордэн езуітаў), у спадчыну Касцёлу ён пакінуў яшчэ адзін важны дар: твор пад назвай "Духоўныя практыкаванні". Гэтая невялікая кніжка прызначана не для звычайнага пабожнага чытання: у ёй змешчаны інструкцыі для малітвы і іншыя парады, якія трэба менавіта практыкаваць – прымяняць у жыцці.**

### Што такое Ігнацыянскія рэкалекцыі?

Змест гэтага твора св. Ігнацыя ўяўляе цэлую духоўна-педагагічную сістэму і разлічаны ў ідэале на трыццаць дзён рэкалекцый, праведзеных у цішыні і маўчанні, са штодзённымі размовамі з асобай, каторая суправаджае.

Аднак мала хто можа сабе дазволіць (і вытрымаць) такі доўгі перыяд аддалення ад звычайных справаў і абавязкаў, таму найчасцей практыкаванні ў ігнацыянскім стылі адбываюцца на працягу васьмідзённых рэкалекцый адзін раз на год паводле адпаведных этапаў, на якія падзеленая кніга. У ёй па чарзе прапануюцца такія малітоўныя тэмы, як грэх і пакаянне, уцелаўленне і публічная дзейнасць Езуса Хрыста, мука і смерць Пана, і напрыканцы – уваскрасенне і праслаўленне Божага Сына. Паступова рэкалектант засвойвае розныя правілы "распазнавання духаў", г. зн. вучыцца адрозніваць у сваёй душы голас "добрага духа", які дапамагае на шляху да Бога, ад дзеяння "злога духа", што перашкаджае на гэтым шляху, хоць старается гучаць як саюзнік і сябра. Ёсць шмат розных іншых нюансаў, якія ўдакладняе св. Ігнацый і якія адкрываюцца па меры таго, як рэкалектант прысвячае чатыры або пяць перыядаў малітвы штодзённа сваім духоўным практыкаванням.

Цікава, як св. Ігнацый тлумачыць саму ідэю такога падыходу да духоўнага жыцця. Ён параўноўвае неабходнасць мэтанакіраваных высілкаў у сферы духа з тым, што датычыцца нашага цела: як цела патрабуе практыкаванняў, каб быць здаровым, так і душа гэтага прагне. Таму мы можам паразважаць над тым, якія існуюць у нашым штодзённым жыцці магчымасці для таго, каб "практыкавацца духоўна", пакідаючы адкрытым запрашэнне да ўдзелу шаноўных чытачоў у выязных Ігнацыянскіх рэкалекцыях у маўчанні, якія перыядычна арганізуюцца і ў нашай краіне.

Зрэшты, сам св. Ігнацый для тых, хто не мае магчымасці аддаліцца цалкам ад сваіх абавязкаў, прадугледжваў форму "духоўных практыкаванняў у штодзённым жыцці", паводле якой асоба вылучае кожны дзень пэўны час на малітоўныя занятк. Такое разважанне над ігнацыянскай ідэяй можа асабліва дапамагчы нам напярэдадні Вялікага Посту, падчас якога мы звычайна робім аскетычныя пастановы (успомнім, што грэчаскае слова "аскеза" азначае менавіта "практыкаванне"). Варта памятаць, што адмаўленне ад чагосьці не з'яўляецца мэтай самой у сабе. Яно мае сэнс толькі тады, калі дапамагае нам наблізіцца да Бога і любіць бліжняга.

### Божае слова і дыялог

Першым сродкам для таго, каб стаць бліжэй Бога, з'яўляецца, безумоўна, малітва. Некаторым з нас зусім не трэба павялічваць час, які мы прысвячаем малітве (хоць іншым, напэўна, варта вызначыць нейкі мінімум для "кантакту з Богам"), але заўсёды можна працаваць над якасцю. Думаю, каталіцкая духоўная культура ў нашай краіне можа зачэрпнуць у спадчыне св. Ігнацыя прынамсі дзве парады наконт малітвы. Першая датычыць большага кантакту са словам Божым, другая – каб у нашай асабістай малітве было больш непасрэднага дыялогу з Богам.

Святое Пісанне – асаблівы "канал камунікацыі", праз які Пан жадае сказаць нам па-сапраўднаму важныя рэчы. У першую чаргу, хрысціянам трэба адкрываць Евангеллі, бо з іх мы даведваемся пра жыццё і вучэнне нашага Збаўцы. Недастаткова проста павярхоўна чытаць гэтыя тэксты, але трэба ў малітве праводзіць час з імі, прымяняючы да нашага жыцця. Калі гаворка пра вучэнне і запаведзі Пана Езуса, тады мы стараемся ўбачыць падчас малітвы, як канкрэтна можам уцелавіць тое, што кажа Збаўца, і адначасова просім аб ласцы і моцы Духа Святога, каб словы вечнага жыцця станавіліся рэчаіснасцю ў нас, бо сваімі сіламі мы не здолеем быць вернымі Запавету з Богам. Калі ж чытаем пра розныя эпізоды з дзейнасці Хрыста, іх таксама можам дастасаваць да сябе, бо мы верым, што Божае слова – "жывое і дзейснае" (Габ 4, 12), яно "ажывае" для нас неспасцігальным чынам, прыносячы плён збаўлення.

### Знайсці сябе ў евангельскім аповедзе

Св. Ігнацый нават прапануе ў малітве праз уяўленне знайсці для сябе месца ў евангельскім аповедзе, дазваляючы такім чынам Езусу, прысутнаму ў Пісанні, дакрануцца да нашай рэчаіснасці. Слова Божае напоўнена сімвалізмам, які гаворыць пра нашае жыццё, калі мы гатовыя слухаць. Напрыклад, як нядаўна каментаваў Папа Францішак евангельскі эпізод пра пакліканне Сымона Пятра Езусам пасля цудоўнага ўлову (Лк 5, 1-11): мы таксама можам дазволіць Пану ўвайсці ў "човен нашага жыцця". Гэта гучыць як прыгожая метафара, але праз малітву дадзены вобраз дзякуючы сілу Духа Святога можа канкрэтызавацца ў пэўным выбары з нашага боку або проста стаць крыніцай суцяшэння ад таго, што ў нашым "чаўне" сапраўды ўжо прысутнічае Пан!

Дзякуй Богу, цяпер Божае слова лёгка даступнае нам не толькі праз друкаваны тэкст, але і праз нашыя шматлікія гаджэты на адлегласці выцягнутай рукі. Дык дазволім жа Пану прамаўляць да нас праз Ягоныя словы, засвойваючы іх у малітоўным практыкаванні!

Св. Ігнацый заахвочвае кожны перыяд малітвы заканчваць размовай з Панам, непасрэдна звяртаючыся да Яго з усім тым, чым напоўнена наша сэрца. Гэтай практыцы таксама варта вучыцца. Не проста карыстацца тэкстамі, якія мы можам прачытаць з малітоўніка або добра ведаем на памяць, але і сваімі словамі спантанна дзякаваць, расказваць, прасіць, дзяліцца...

Не трэба паддавацца спакусе абясцэньваць тое, што я магу сказаць Богу. Нашаму нябеснаму Айцу прыемна чуць шчырыя словы сваіх дзяцей! Так нашыя адносіны з Богам становяцца па-сапраўднаму асабістымі і непасрэднымі. А паколькі ў кожнай размове трэба даць прастору і іншай асобе, мы вучымся ўслухоўвацца ў маўчанні ў тое, што можа адказаць нам Боскі суразмоўца. І не абавязкова словамі, але калі мы не чуем нейкага выразнага паслання, напэўна, ласка Духа Святога будзе адказам на наш зварот, бо ніякая малітва не застаецца непачутай.

Няхай жа Дух Святы натхніць кожнага з нас знайсці адпаведны спосаб "духоўна практыкавацца", каб наблізіцца да Бога і выконваць Яго волю ў нашым жыцці!

***Айцец Віктар Жук SJ***
*пробашч парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску*

# Фармацыйны курс для студэнтаў і працоўнай моладзі "Filii Mariae" прайшоў у Воршы

**З 28 па 30 студзеня ў Воршы праходзіў фармацыйны курс для студэнтаў і працоўнай моладзі "Filii Mariae", што перакладаецца з лацінская мовы як "Дзеці Марыі".**
**■ Паліна Грыб,** *тэкст*; **а. Ілля Саўчанка MIC,** *фота*

Менавіта ў духу дзіцячай любові і адкрытасці мы імкнуліся да пазнання Бога праз Марыю і гісторыю яе жыцця. У ордэне айцоў-марыянаў ёсць цудоўная малітва – каронка дзесяці евангельскіх цнотаў Найсвяцейшай Панны Марыі. Менавіта гэтую малітву арганізатары вырашылі ўзяць за аснову курса.

Падчас студзеньскай, фактычна першай сустрэчы ў праграме "10 цнотаў" мы разважалі над першай евангельскай цнотай Марыі – "найчысцейшая". Нягледзячы на тэму, гэтыя разважанні не сталі толькі адказамі на пытанне: "Якой была Божая Маці?" Яны былі скіраваныя таксама на пазнанне саміх сябе ў святле духоўнай, маральнай, фізічнай і псіхалагічнай чысціні. Цудоўна сумяшчаліся ў праграме курса як сур'ёзныя канферэнцыі святароў з ордэна айцоў-марыянаў, так і псіхалагічны майстар-клас, скрутацыя, штодзённая адарацыя і рэкрэацыйныя вечаровыя пункты праграмы.

Поўны курс прадугледжвае цыкл з дзесяці сустрэчаў, але далучыцца можна ў любы момант.

Сведчанні ўдзельнікаў курса:

**Вольга Кулік, Жодзіна:**
– Для мяне "Filii Mariae" – гэта супольнасць. Супольнасць людзей, якія шукаюць Божых шляхоў і просяць у гэтым дапамогі ў Марыі. Людзей, якія жадаюць быць у гэтых пошуках разам, каб гэтая супольнасць станавілася сапраўднай сям'ёй, утульнай для тых, хто ўжо ёсць, і адчыненай для новых людзей. Супольнасць не ідэальных людзей, а тых, хто жадае стаць лепшым і прыкладае для гэтага магчымыя высілкі.

**Паліна Грыб, Жодзіна:**
– Я заўсёды з трапяткім сэрцам узгадваю Воршу. Для мяне гэта месца, дзе пачался маё духоўнае жыццё, месца, дзе яно ўсталёўвалася, месца, куды я магу прыехаць у любым стане і быць прынятай такой, якая я ёсць. Безумоўна, аршанскі рэкалекцыйны дом і касцёл Святога Юзафа – месцы асаблівыя, намоленыя, але ў кожнай паездцы, у кожных рэкалекцыях важныя ў першую чаргу людзі, з якімі ты праходзіш свой духоўны шлях. Нi ахай шлях пад назвай "Filii Mariae" цягнецца ўсяго тры дні, але я не перастаю здзіўляцца, колькі плёнаў за гэты час можна атрымаць! Хрысціянін асаблівым чынам узрастае ў супольнасці і, сапраўды: "Filii Mariae" – супольнасць, у якой узрастаць проста і прыемна.

**Ілля Дземскі, Жодзіна:**
– Для меня "Filii Mariae" – это место, где я могу духовно отдохнуть от внешнего мира. Встретиться со старыми друзьями и познакомиться с новыми участниками курса, задать себе вопросы насчет своего духовного мира и постараться найти ответы на них. Для меня самого важной частью курса являются конференции, ведь именно на них я могу услышать размышления других людей на темы, которые меня интересуют, а после – обсудить появившиеся вопросы с другими участниками курса. Для меня "Filii Mariae" стал чемто очень важным, могу сказать, что это лучшее, что со мной случалось за последний год.

**Альбіна Гайсёнак, Крупкі:**
– Для мяне "Filii Mariae" – гэта магчымасць аднавіць сваё сэрца, бо гэта неабходна, каб мець жывыя і добрыя адносіны з Богам. "Filii Mariae" – гэта час, дзякуючы якому мой унутраны свет перажывае змены. Супольная малітва, супольныя спевы, разважанні – усё гэта дае магчымасць чарговы раз засяродзіць увагу на тым, што ўсе мы дзеці адной Маці – Марыі. Тэмай курса была першая цнота Найсвяцейшай Панны – "найчысцейшая". Мы даведаліся пра чысціню цела, чысціню ў Біблії, псіхалагічную чысціню і чысціню зносін. І сапраўды, кожны дзень Бог дае нам магчымасць стаць чыстымі наноў, змяніць сваё жыццё ў бок дабра і любові. Але што трэба рабіць, каб зноў не забрудзіцца? Адказ просты: мы павінны запрасіць Бога ў цэнтр нашага жыцця і скіраваць свой погляд на Панну Марыю.



**Данік Маскевіч, Барысаў:**
– Для мяне "Filii Mariae" – гэта месца, дзе адпачывае душа і цела, а таксама час для малітвы і размовы з Богам. Я быў на курсе першы раз, але ўпэўнена магу сказаць, што гэта найлепшая сустрэча моладзі ў Беларусі для мяне. Асобна хацелася б адзначыць канферэнцыі, якія праводзілі як святары, так і свецкія людзі. Мне яны вельмі спадабаліся. Адарацыя на такіх сустрэчах – гэта класна! Прыязджайце на "Filii Mariae"! Хвала Пану!

**Яна Фаляжынская, Мінск:**
– Што такое "Filii Mariae"? Для мяне – гэта добры прыклад разнастайнасці Касцёла. Напэўна, кожная маладая асоба ў нейкі момант сутыкаецца са сталеннем веры і раптоўна аказваецца, што гэтая вера робіць цябе адрозным ад тваіго асяроддзя. І вось нашыя сустрэчы – гэта вельмі важны час, каб убачыць, што жыць з верай рэальна і магчыма не толькі ў вузкім коле каталіцкай моладзі, але і ў вялікім коле жыцця. Гэта вельмі добра, што мы розныя, мы можам дыскутаваць, разважаць сам-насам, пазнаваць саміх сабе і адно аднаго.

І, канешне, калі пытаюцца пра нашы сустрэчы, хочацца запэўніць, што ўсё праходзіць даволі весела, і што курс – гэта не пра цяжар фундаментальнай каталіцкай навукі. Але праўда ў тым, што такія сустрэчы маюць адзіную мэту – тваё спатканне з Богам. І менавіта Ён – крыніца як катэхэзаў з малітвамі, так і танцаў з песнямі. Веру, што Бог, як і мы, Жывы. Таму, калі шукаеш Яго, – табе да нас!

# ПАЗНАВАЙКА

Працягваем вывучаць Біблію разам з Пазнавайкай. Разважаем над кнігай Эстэр. Каб добра выканаць заданні старонкі, трэба ўважліва прачытаць кнігу Эстэр.

Эстэр была юдэйкай, якая жыла ў Персіі. Яе бацькі памерлі, і пра яе клапаціўся яе стрыечны брат Мардахэй. Яе запрасілі ў царскі палац разам з іншымі дзяўчатамі з таго царства. Цар хацеў выбраць для сябе новую царыцу і ўзяў за жонку Эстэр. Прыпомні сабе, якую царыцу замяніла Эстэр?(Эстэр 1, 12).

Разгадай рэбус, убачыш яе імя.




Адказ: ___________

Пастаў словы ў правільным парадку і зможаш скончыць урывак з Біблії (Эстэр 2, 15) :

«...І здабыла Эстэр ___________
___________
___________»

да сябе
усіх, ў вачах бачыў.
хто яе прыхільнасць

У цара быў слуга па імені Аман, які заслужыў вялікую ўладу. Аман дапамагаў цару правіць у той зямлі. Цар загадаў, каб усе кланяліся Аману. Але Мардахэй не стаў кланяцца Аману. Мардахэй казаў, што будзе кланяцца толькі Госпаду. Гэта разглавала Амана. Ён захацеў пакараць Мардахэя і ўсіх юдэяў. Аман сказаў цару, што юдэі не выконваюць законы цара. З-за гэтага цар дазволіў Аману выдаць новы закон - пра тое, што ў вызначаны дзень усіх юдэяў заб'юць.

Знайдзі на малюнках 5 адрозненняў



Мардахэй папрасіў Эстэр пагаварыць з царом. Цар мог бы змяніць закон Амана і выратаваць юдэяў. Але Эстэр баялася. Часам цар забіваў тых людзей, якія прыходзілі пагаварыць з ім без запрашэння. Эстэр ведала, што павінна пагаварыць з царом, нават калі яе за гэта заб'юць. Эстэр папрасіла ўсіх юдэяў і сваіх слуг пасціцца разам з ёй.

Знайдзі 5 памылак на малюнку.



Калі яна падышла да цара, ён працягнуў да яе свой скіпетр. Гэта азначала, што цар рады яе бачыць і не збіраецца яе забіваць. Ён спытаў, чаго яна хоча. Эстэр сказала цару, што яе народ у небяспецы. З-за закона Амана яе і ўсіх юдэяў у царстве павінны былі забіць. Цар разззлаваўся на Амана і загадаў забіць яго. Цар выдаў новы закон, які бараніў юдэяў. Вера Эстэр у Госпада і яе рашучасць пагаварыць з царом выратавалі яе народ. Замест смерці і пакутаў было свята.

Размалюй малюнак, на якім намалявана царыца Эстэр.



*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Вікторыя Арфеева***

# Малітвы святога Патрыка

**Божа, будзь з намі: у нас, каб ачысціць нас; над намі, каб узвысіць нас; пад намі, каб падтрымаць нас; перад намі, каб весці нас; за намі, каб стрымліваць нас; вакол нас, каб ахоўваць нас.**

**Няхай сіла Божая вядзе нас, няхай сіла Божая ахоўвае нас, няхай мудрасць Божая вучыць нас, няхай рука Божая бароніць нас, няхай шлях Божы накіроўвае нас, няхай шчыт Божы засцерагае нас, няхай анёлы Божыя аберагаюць нас ад усялякага зла, ад пастак гэтага свету. Няхай Хрыстус будзе з намі! Няхай Хрыстус будзе перад намі! Няхай Хрыстус будзе ў нас! Няхай Хрыстус будзе над усім! Мой Збаўца, Пан Бог, заўсёды будзе з намі ў гэты дзень і навекі. Амэн.**



**Езу, будзь са мною! Атулі мяне сваёю апекаю. Будзь у сэрцах усіх, хто пра мяне думае. Будзь у вуснах усіх, хто пра мяне гаворыць. Будзь у вачах усіх, хто мяне бачыць. Будзь у вушах усіх, хто мяне слухае. Езу, будзь са мною і зберагай мяне. Амэн.**

# Каляндар на сакавік

**2 сакавіка - Папяльцова серада.**

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**

**7 сакавіка – успамін святых Пэрпэтуі і Фэліцыты, мучаніц.**

**8 сакавіка – успамін св. Яна Божага, законніка.**

**9 сакавіка – успамін святой Францішкі Рымскай, законніцы.**

**17 сакавіка – успамін святога Патрыка, біскупа.**

**18 сакавіка – успамін святога Кірыла Ерузалемскага, біскупа і доктара Касцёла.**

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**23 сакавіка – успамін святога Турыбія Манграваха, біскупа.**

**25 сакавіка - урачыстасць Звеставання Пана.**

# Рэцэпт ірландскіх сметанковых кексаў на дзень святога Патрыка

**Інгрэдыенты**

Для ірландскіх кексаў нам спатрэбіцца:

- 70 грам какава-парашку;
- 3 чвэрці шклянкі гарачай вады;
- 6 сталовых лыжак алею для цеста і 150 грам масла пакаёвай тэмпературы для крэму;
- 200 грам мукі;
- па тры чвэрці шклянкі белага і карычневага цукру;
- паўтары чайныя лыжачкі парашку-разрыхляльніка;
- крыху харчовай соды;
- чвэрць чайнай лыжкі солі;
- два яйкі;
- тры чвэрці шклянкі пахты (можна замяніць кефірам);
- чвэрць шклянкі цёртага шакаладу;
- 200 грам кандытарскага цукру;
- паўшклянкі лікёру тыпу “Бейліс”;
- харчовы фарбавальнік, пажадана зялёнага колеру.

**Пакрокавая інструкцыя:**

**1.** Разагрэйце духоўку да 180 градусаў. Растварыце какаву ў гарачай вадзе ў асобнай місцы. Растапіце масла, адстаўце.

**2.** Узбіце пахту, соль, кандытарскі цукар, яйкі, частку растопленага масла і вадкую какаву. Дадайце муку з разрыхляльнікам і харчовай содай.

**3.** Вазьміце 18 формаў для кексаў ці капкейкаў (лепш за ўсё падыдуць сіліконавыя). Атрыманае цеста раскладзіце па формачках. Выпякайце 15-20 хвілін. Дайце кексам астыць.

**4.** Цяпер прыступім да крэму. Узбіце міксерам на сярэдняй хуткасці пакінуты алей. Паступова дадавайце белы і цёмны цукар, пакуль не атрымаецца салодкі крэм.

**5.** Дадайце лікёр і яшчэ раз узбіце. Цяпер дадайце зялёны харчовы фарбавальнік. Крэм




павінен атрымацца гладкім і аднастайным.

**6.** Змясціце крэм у кандытарскі пакет і ўпрыгожце кексы крэмам.

Пасыпце зверху крэм цёртым шакаладам. Ірландцы звычайна ўпрыгожваюць такія кексы канюшынамі, але вы можаце зрабіць гэта на свой густ.

# Жартуюць святары

**У сённяшнім нумары “Каталіцкага Весніка” прапануем вам жарты ад айца Іллі Саўчанкі МІС, які служыць у парафіі святога Юзафа ў Воршы.**



Адбываецца святая Імша. Па касцёле бегае дзіця. Падбягае то да адных людзей, то да іншых, забаўляецца. Бацькі не вытрымліваюць, ловяць хлопчыка каля самага алтара і праз сярэдзіну выводзяць яго са святыні. Ля самых дзвярэй, паварочваючыся да людзей, маленькі жэўжык звяртаецца да прысутных: "Людзі, маліцеся за мяне!"



– Абба Паймэн ужо не жыве, – сказаў адзін пустэльнік іншаму.

– Як гэта? – здзіўлены іншы. – Доктар быў у яго толькі адзін раз!

– Бачна, браце, што не ведаеш, якая развітая цяпер медыцына!



“Калі адзін з нас памрэ, – сказаў пэўны пустэльнік іншаму, – тады вярнуся ў кляштар у Скэціс”.



Кажуць, хто спявае, той двойчы моліцца, а хто да гэтага яшчэ спявае фальшыва, той моліцца тройчы. А хто слухае гэта ўсё, той спадарожнічае Езусу на Крыжовым шляху...



Отец читает сыну сказку на ночь: “...Увидел принц Золушку на балу – и весь вечер не мог оторвать от нее глаз” ...

– Папа, а зачем принцу Золушкин глаз?



## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апэратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – В; 5 – А; 6 – А; 7 – А; 8 – Б; 9 – А; 10 – А

**Больш навін, здымкаў і відэа на**

**Catholicnews.by**

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 780

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2800 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 16.02.2022 г. у 15.15

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь